


# Беларус

БЕЦЕ Ў СЭРЦЫ ІХ — БЕЦЕ МЯЧАМІ! НЕ ДАВАЙЦЕ ЧУЖЫНЦАМІ БЫЦЬ!

Максім Багдановіч (1891-1991)

№ 395 Лістапад 1992
Год выд XLI

BIELARUS / Belarusan Newspaper in the Free World. Published by the Byelorussian-American Ass'n., Inc.
Address: P. O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432, U.S.A. Price $2.50


## У СПРАВЕ РЭФЭРЭНДУМУ АБ ВЫБАРАХ НА БЕЛАРУСІ

*Ад Рэдакцыі:* У сувязі з тым, што намэнклятурны ў сваёй бальшыні Вярхоўны Савет Беларусі адкінуў 29 кастрычніка бальшынёй 202 дэпутатаў супраць 35 (пры 35 устрыманых галасох) дамаганьне больш як 442 тысячаў выбаршчыкаў правесьці рэфэрэндум аб роспуску цяперашняга парлямэнту і правядзеньні новых выбараў, ніжэй зьмяшчаем заяву дэпутатаў апазыцыі БНФ, у якой даецца тлумачэньне сытуацыі.

### ЗАЯВА

**Апазыцыі Беларускага Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусі**

29 кастрычніка 1992 году Вярхоўным Саветам Беларусі прынята беспрэцэдэнтная пастанова, паводле якой насуперак закону «Аб народным галасаваньні (рэфэрэндуме)» праігнаравана ініцыятыва больш як 442 тысячаў грамадзянаў нашай дзяржавы аб правядзеньні рэфэрэндуму пра роспуск выбранага за часы непадзельнага кіраваньня КПБ-КПСС парлямэнту і правядзеньні датэрміновых выбараў у новую найвышэйшую ўстанову дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусь.

Вярхоўны Савет гэтым сваім рашэньнем паказаў сваю адкрытую пагарду да рэалізацыі неад'емнага права народу на волевыяўленьне, парушыўшы тым самым артыкулы 2 і 5 дзейнай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусі, артыкулы 6 і 14 Закону «Аб народным галасаваньні (рэфэрэндуме)» Рэспублікі Беларусі.

Цэнтральная камісія па рэфэрэндуму не адзначыла ніякіх парушэньняў Закону з боку Ініцыятыўнай групы рэфэрэндуму, якія давалі-б падставу адхіліць правядзеньне рэфэрэндуму, аб чым сьветчыць Заключэньне Камісіі. Падпісныя лісты, у якіх Цэнтральная камісія па рэфэрэндуму выявіла недакладнасьці ў афармленьні, былі аднятыя ад агульнай колькасьці падпісных лістоў. Усе астатнія, праверанparam Камісіяй падпісныя лісты, былі прызнаны сапраўднымі і склалі 384.318 подпісаў грамадзянаў, што значна перавышае колькасьць, неабходную для правядзеньня рэфэрэндуму. На аснове гэтага і было прынятае Заключэньне Цэнтральнай камісіі па рэфэрэндуму і 12 мая 1992 г. перададзена ў Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету Беларусі. Прэзыдыюм, ігнаруючы законную волю грамадзянаў, выяўленую ў падпісных лістах, на працягу паўгода ня зьбіраў Сэсію Вярхоўнага Савету і не займаўся пытаньнем пра рэфэрэндум, штучна адцягваў абавязковае вырашэньне пытаньня.

29 кастрычніка 10-я Сэсія Вярхоўнага Савету Беларусі з падачы Камісіі па заканадаўству сфальсыфікавала вывады Заключэньня Цэнтральнай камісіі па рэфэрэндуму і прадставіла як грубыя парушэньні Закону. Але такія парушэньні Закону, калі-б яны былі, мог устанавіць толькі суд. У дадзеным выпадку суду падлягае парлямэнт, які прыняў антызаконную пастанову на падставе ім-жа сфальсыфікаваных аргумэнтаў. Аднак у нашай дзяржаве няма Канстытуцыйнага суда.

У сувязі з вышэйсказаным мы, дэпутаты Апазыцыі Беларускага Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце, заяўляем, што Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусі 12-га скліканьня, адхіліўшы законную ініцыятыву сотняў тысяч грамадзянаў Беларусі аб правядзеньні рэфэрэндуму пра нечарговыя выбары і роспуск цяперашняга Вярхоўнага Савету, стаў на шлях адкрытага парушэньня законаў, Канстытуцыі Рэспублікі Беларусі і тым самым фактычна згубіў сваю легітымнасьць. Дзеяньні Вярхоўнага Савету аб недапушчэньні рэфэрэндуму могуць быць расцэненыя толькі як утрыманьне ўлады незаконнымі сродкамі.

На жаль, кіруючая большасьць у Вярхоўным Савеце Беларусі, якая так нічога і не зрабіла для паляпшэньня жыцьця народу, засьветчыла на гэтай Сэсіі выразныя тэндэнцыі, накіраваныя супраць існаваньня беларускай дзяржавы і беларускай нацыі. Гэта выявілася ў непрыняцьці новай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусі, у тармажэньні эканамічных пераўтварэньняў, у непавазе да дзяржаўнай беларускай мовы і сымбаляў беларускай дзяржавы, у імкненьні ўцягнуць нэўтральную Беларусь у ваенны блёк з Расеяй, у спробах захаваць адміністрацыйна-сацыялістычны лад і аднавіць КПБ-КПСС. Антыдзяржаўная палітыка ёсьць палітыка антынародная, бо, ня маючы сваёй дзяржавы, народ ня можа распараджацца вынікам сваёй працы.

У ажыцьцяўленьні рэакцыйных задумаў намэнклятуры перашкаджае дзейнасьць аб'яднанай Апазыцыі Народнага Фронту і дэмакратычных партыяў. Мы, дэпутаты Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусі, усьведамляем свае абавязкі перад народам у цяжкі для нашай Бацькаўшчыны час і, нягледзячы ні на што, застаючыся ў жорсткай парлямэнцкай Апазыцыі, будзем змагацца за аднаўленьне законнасьці, за інтарэсы нашых выбаршчыкаў, нашай Беларусі і яе грамадзянаў.

Мы застаемся паўнамоцнымі прадстаўнікамі нашых выбаршчыкаў, але ня лічым для сябе абавязковым прымаць удзел у галасаваньні ў гэтым Вярхоўным Савеце.

*(Працяг на 2-й с.)*

## ЎІЛЬЯМ (БІЛ) КЛІНТАН — НОВЫ ПРЭЗЫДЭНТ ЗША

### Зьмена пакаленьняў у Белым Доме



*Новаабраны Прэзыдэнт Ўільям Клінтан і Віцэ-Прэзыдэнт Альбэрт Гор.*

Трэцяга лістапада сёлета 104 мільёны амэрыканскіх выбаршчыкаў (55% ад усіх упаўнаважаных галасаваць) узялі ўдзел у прэзыдэнцкіх выбарах. З трох галоўных кандыдатаў, што балатаваліся на прэзыдэнта краіны — дэмакрата Біла Клінтана, рэспубліканца Джорджа Буша і незалежнага кандыдата Роса Пэро — за Клінтана было пададзена 43% галасоў выбаршчыкаў, за Буша — 38% і за Пэро — 19%. Але прэзыдэнта ў Амэрыцы выбіраюць не беспасярэдня тыя, хто галасуе, а выбіраюць яго электары кожнага штату. Прычым правіла тут такое, што **ўсе** электары дадзенага штату павінны галасаваць за таго кандыдата, за якога выказалася бальшыня выбаршчыкаў. У выніку гэткай складанай сыстэмы выбараў, колькасьць народных галасоў за таго ці іншага кандыдата і колькасьць электарскіх галасоў, як правіла, бываюць розныя. Гэтак, у сёлетніх выбарах электарскіх галасоў кандыдат Дэмакратычнае партыі Біл Клінтан здабыў 357, а кандыдат Рэспубліканскае партыі Прэзыдэнт Джордж Буш — толькі 168. Незалежны кандыдат Рос Пэро не атрымаў ніводнага электарскага голасу. Каб стацца прэзыдэнтам, трэба атрымаць найменш 270 электарскіх галасоў. Як бачым, перамога Біла Клінтана — даволі выразная.

У папярэднім нумары «Беларуса» падавалася пра выказаньне прэзыдэнцкага кандыдата Біла Клінтана аб ягонай гатовасьці падтрымваць дэмакратычныя працэсы ўва Ўсходняй Эўропе, упаасобку праз г. зв. Корпус Дэмакратыі. У інтэрв'ю ангаламоўнаму "Украінскаму Тыднёвіку" напярэдадні выбараў, адказваючы на пытаньне пра магчымую дапамогу Амэрыкі ў перамаганьні вынікаў чарнобыльскай катастрофы, Клінтан сказаў:

«Я буду падтрымваць Корпус Дэмакратыі, які дасьць магчымасьць бізнэсмэнам і прадстаўнікам іншых прафэсіяў, прафсаюзным спэцыялістам, лекаром, экспэртам прыроднага асяродзьдзя і навукоўцам працаваць на Ўкраіне і ў іншых дзяржавах, што нядаўна здабылі сваю незалежнасьць. Гэткі падыход забясьпечыць тэхнічную экспэртызу ў адольваньні вынікаў Чарнобыля на Ўкраіне і ў Беларусі».

Пасьля 12-гадовага пэрыяду, калі Белы Дом быў у руках рэспубліканцаў, а ў Кангрэсе пераважалі дэмакраты, цяпер дэмакраты будуць мець абедзьве гэтыя інстытуцыі ў сваіх руках. Апытаньне грамадзкай думкі паказала, што 62% амэрыканцаў уважаюць, што для краіны лепш, калі Белы Дом і Кангрэс належаць да тае самае палітычнае партыі. Гэткая кансалідацыя ўлады будзе абмоўліваць палітыку Злучаных Штатаў на наступныя чатыры гады пасьля таго як 20 студзеня 1993 году функцыя прэзыдэнта пяройдзе ад 68-гадовага Джорджа Буша да 46-гадовага Біла Клінтана і 44-гадовага ягонага заступніка Альбэрта Гора.

### МІНІМАЛЬНАЯ ЗАРПЛАТА

Вярхоўны Савет Беларусі пастанавіў 20 кастрычніка сёлета «зацьвердзіць зь 1-га лістапада 1992 г. мінімальную заработную плату ў разьмеры 2000 рублёў у месяц». *(Зв., 23.X)*

Газэта «Нью-Ёрк Таймс» падала 28 кастрычніка, што вартасьць рубля спала да 393 рублі за даляра. Калі мераць далярамі, мінімальная заработная плата на Беларусі будзе станавіць крышку больш як пяць даляраў на месяц.

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 25 yearly**
**«БЕЛАРУС» — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.**
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 25 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ФІКЦЫЯ ЦІ РЭЧАІСНАСЬЦЬ?

Летась Вярхоўны Савет БССР абвясьціў незалежнасьць Беларусі і прыняў назоў Рэспубліка Беларусь. Мы тут на эміграцыі спаткалі гэтую гістарычную падзею зь вялікай радасьцяй і энтузіязмам. Здавалася, што нашыя мроі аб свабодзе й незалежнасьці споўніліся — бел-чырвона-белы сьцяг залунаў над Менскам, а «Пагоня» заняла сваё пачэснае месца. Здавалася, што тое, за што мы змагаліся споўнілася і мы можам з палёгкай сказаць, што нашая роля палітычнай эміграцыі закончаная, і мы можам адпачыць: далейшы лёс Беларусі — у руках народу. Наша справа цяпер — дапамагчы, калі нас папросяць.

Як-жа выглядае рэчаіснасьць сёньня? Стары Вярхоўны Савет, той, што быў сфармаваны на недэмакратычнай аснове, далей кіруе новай дзяржавай. Больш за 440 тысячаў подпісаў выбаршчыкаў, якія дамагаюцца правядзеньня рэфэрэндуму, зьігнараваныя. Сродкі масавай інфармацыі як былі ў руках камуністычнай намэнклятуры, гэтак і засталіся там. Усе захады маленькай апазыцыі ў кірунку эканамічных рэформаў і адміністрацыйных зьменаў ігнаруюцца небеларускай па духу бальшыньнёй тых, што сядзяць пры ўладзе.

Адказ на гэтую ненармальную сытуацыю застаецца ўсё той-жа: дамагацца вольных выбараў пад наглядам Аб'еднаных Нацыяў і роўнага доступу да сродкаў масавай інфармацыі для ўсіх партыяў. Толькі сойм, выбраны на дэмакратычных асновах, зможа прыняць пастановы, якія забавяжуць усіх прызнаць іх ды ім падпарадкавацца.

**Б. Рагуля**

*Зварот да беларусаў сьвету*

# «МАЛІТВА МАЁЙ ЗЯМЛІ»

Беларуска-Амэрыканскаму Задзіночаньню
Згуртаваньню Беларусаў Канады
Фэдэральнай Радзе Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі
Згуртаваньню Беларусаў у Вялікабрытаніі

Браткі-беларусы!

Зьвяртаюся да вас з наступнай інфармацыяй: мною створана кінастудыя «Спадар Д» для вытворчасьці 30-сэрыйнага мастацка-публіцыстычнага фільму «МАЛІТВА МАЁЙ ЗЯМЛІ». У кожнай частцы сэрыі — адна гадзіна экраннага часу. У здымках сэрыялу возьмуць удзел маладыя беларускія рэжысэры — цяпер студэнты чацвертага курсу майстэрні дакумэнтальнага кіно, якой я кірую ў Беларускай Акадэміі Мастацтваў.

Праект разьлічаны на 5-7 гадоў працы і сустрэў прыхільную падтрымку Камісіі Вярхоўнага Савету па культуры, рашэньне якой я прыкладаю да гэтага ліста. У гэтым годзе будуць запушчаны ў вытворчасьць першыя тры фільмы: «Гісторыя войнаў на Беларусі», «Гісторыя рэлігій на Беларусі», «Эпоха Брэжнева».

Нягледзячы на падтрымку ўладаў, пытаньняў, тым ня менш, узьнікае многа. Фінансаваньне праекту ў сувязі з гіпэрінфляцыяй у краіне — праблематычнае ў будучым, у сувязі з чым я сустракаюся зь вялікімі цяжкасьцямі. Камісія Вярхоўнага Савету можа толькі прасіць, а грошы разьмяркоўвае Ўрад. А многія дзяржаўныя людзі лічаць, што пры сёньняшнім недахопе самага неабходнага з духоўнымі каштоўнасьцямі можна пачакаць да лепшых часоў. Гэта, на мой погляд, вялікая памылка: без нацыянальнае самасьвядомасьці ня будзе аніякага адраджэньня, і мы застанемся жабракамі на стагодзьдзі: дзяржаву, якая не клапоціцца пра духоўнасьць нацыі, чакаюць яшчэ больш горшыя часіны.

Я разумею, што тых, хто просіць, сёньня намнога больш, чым тых, хто можа даць, таму я не хачу выглядаць чарговым прасіцелем, у мяне ёсьць канкрэтная прапанова: улічваючы, што фільмы — гэта матэрыяльныя каштоўнасьці, магчымыя пошукі з Вашай дапамогай замежных спонсараў, зь якімі можна было-б потым разьлічыцца гатовай прадукцыяй, скажам, на тэлебачаньні ці ў культурных фондах музэяў, унівэрсытэтаў, бібліятэк і г.д. Тым болей, што многімі тэмамі сэрыялу можна зацікавіць тэлеглядачоў і сур'ёзных дасьледчыкаў-гісторыкаў. Плян праекту з кароткімі анатацыямі я дасылаю разам з гэтым пісьмом.

Акрамя гэтай прапановы прашу Вас пасадзейнічаць у зборы іканаграфічных матэрыялаў, кніг, здымкаў і г.д., якіх можа ня быць у Беларусі — скажам, пра 20-30-я гады, пра гісторыю рэлігійных канфэсій на Беларусі.

І апошняе: буду вельмі Вам удзячны за дапамогу і садзеяньне ў арганізацыі здымак па тэмах, зьвязаных зь беларускай эміграцыяй у Амэрыцы, Канадзе, Лёндане ці Аўстраліі — напрыклад, інтэрв'ю зь Мітрапалітам Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Ўладыкам Мікалаем. Здымачная група будзе мінімальнай: ня больш трох чалавек, пры самых няспрыяльных умовах — два чалавекі на тэрмін, прыкладна, да двух тыдняў на кожную краіну.

Дарагія сябры! Мне 54 гады, больш за трыццаць гадоў я працую ў кінэматографе Беларусі, адзін зь нямногіх, хто ўсё жыццё сур'ёзна займаўся нацыянальнай тэматыкай, і калі Бог прыхільна адзначыць мой лёс, спадзяюся на завяршэньне творчага шляху гэтым праектам на карысьць Радзімы.

30-сэрыйны фільм называецца «Малітва маёй зямлі», — дык давайце-ж, браткі, маліцца разам — на шчасьце роднай старонкі.

Празь ветліва́сьць газэты «Беларус»

**Віктар Дашук,**
**Народны артыст Рэспублікі Беларусь**
**Генэральны Дырэктар студыі**
**«Спадар Д»**
**220023 г. Менск**
**пр. Ф. Скарыны, 98**
**тэл. 64-15-70**

# У СПРАВЕ РЭФЭРЭНДУМУ... ЗАЯВА

*(Заканчэньне зь 1-й с.)*

Неабходнасьць рэфэрэндуму, законна засьветчаная воляй 442 тысячаў грамадзянаў Беларусі, ня зьнятая з парадку дня. Дэпутаты Апазыцыі БНФ будуць дамагацца адмены антызаконнага рашэньня Вярхоўнага Савету ўсімі даступнымі канстытуцыйнымі сродкамі. Рэфэрэндум павінен адбыцца.

Мы, дэпутаты апазыцыйнай меншасьці, усе, хто 29-га кастрычніка прагаласаваў за рэфэрэндум, за выкананьне Канстытуцыі і Закону, застаемся легітымнай часткай гэтага Вярхоўнага Савету, каб не дазволіць яго кіруючай большасьці бесьперашкодна парушаць правы чалавека, зьневажаць духоўныя і матэрыяльныя інтарэсы народу, дыскрэдытаваць беларускую дзяржаву, каб дамагчыся датэрміновага спыненьня яго паўнамоцтваў на аснове Закону.

Мы верым у шчасьлівую будучыню Беларусі, вольнае і заможнае жыцьцё народу і, адстойваючы законныя інтарэсы і правы людзей, спадзяемся на іх разуменьне нашай пазыцыі, падтрымку і арганізаванасьць.

**Дэпутаты Апазыцыі БНФ: З. Пазьняк, В. Голубеў, Г. Сямдзянава, С. Навумчык, Л. Зданевіч, Г. Грушавы, С. Антончык, У. Заблоцкі, Ю. Беленькі, Л. Тарасенка, С. Папкоў, Я. Новікаў, У. Гермянчук, Л. Баршчэўскі, Л. Дзейка, П. Холад, А. Шут, А. Трусаў, В. Какоўка, М. Аксаміт, Я. Глушкевіч, М. Крыжаноўскі, С. Бабчонак, М. Маркевіч, А. Паруль, І. Пырх, Я. Бядулін, В. Малашка, В. Алампіеў, М. Мацюшонак, С. Слабчанка. Я. Цумараў.**

# ВЫБАРЫ Ў ЛЕТУВІСКІ ПАРЛЯМЭНТ І БЕЛАРУСЫ

**Інтэрв'ю з Валентынам Стэхам, старшынём Каардынацыйнай Рады Беларускіх Згуртаваньняў у Летуве**

**Пытаньне:** Сп. Стэх, сэнсацыяй прагучала вестка ў заходнім друку 27 кастрычніка аб тым, што ў Летуве, найбольш незалежніцкай з былых савецкіх рэспублік, партыя былых камуністаў набрала ў выбарах найбольш галасоў. Што Вы на гэта скажаце?

**Адказ:** Паведамленьне аб тым, што Партыя Працы Альгірдаса Бразаўскаса (былыя камуністы) атрымала ў першым туры выбараў у Сойм Летувіскай Рэспублікі 44,7 працэнта галасоў ня было для мяне нечаканым. Справа ў тым, што яшчэ перад маім ад'ездам у Злучаныя Штаты мы ў Вільні спрабавалі хоць-бы збольшага ацаніць сытуацыю і прадбачыць магчымы расьпадзел сілаў на палітычнай арэне. Паводля нашых меркаваньняў, «Саюдзіс» не карыстаецца ўжо тэй папулярнасьцю, якую ён меў на пачатку сваёй дзейнасьці, бо саюдзісаўскі ўрад ня справіўся з эканамічнымі цяжкасьцямі, і гэта выклікала расчараваньне ў народзе. Таму разьлічвалі на тое, што «Саюдзіс» зьбярэ шмат галасоў у выбарах ня прыходзілася. Наступным рэальным прэтэндэнтам на галоўнае месца ў Сойме была, на нашу думку, Дэмакратычная Партыя Працы, або, як яе ў нас завуць, «партыя Бразаўскаса».

Пры гэтай нагодзе мушу зазначыць, што нельга атаесамляць экс-камуністаў Летувы з экс-камуністамі, скажам, Беларусі. Фактычна, апрача збольшага агульнай ідэялягічнай плятформы, летувіскіх і беларускіх экскамуністаў нічога не аб'ядноўвае. Летувіскія былыя камуністы ўсе нацыянальна сьведамыя, тымчасам як іхныя адпаведнікі на Беларусі ў сваёй бальшыні — закарэлыя носьбіты нацыянальнага нігілізму й расейскага вялікадзяржаўніцтва.

Не скажу, каб у Летуве была папулярнай сама Партыя Працы, як такая, але на ейнага лідэра, Альгірдаса Бразаўскага, шмат хто глядзіць як на чалавека, за плячыма якога багаты жыцьцёвы і палітычны вопыт. Бразаўскас карыстаецца ці не найбольшай павагай і любоўю спасярод усіх дзеячоў савецкай Летувы.

**П.:** Як выглядаў удзел віленскіх беларусаў у выбарах?

**А.:** Упяршыню за апошнія 50 гадоў і мы ўзялі ўдзел. Але паколькі беларуская грамадзкія арганізацыі паўсталі ў Летуве параўнальна нядаўна і не набылі яшчэ патрэбныя сілы, мы сваіх кандыдатаў вылучылі праз Садружнасьць Нацыянальных Меншасьцяў Летувы і Саюз Палякаў Летувы. Ад Садружнасьці былі вылучаны Ангеліна Русак-Якшцене, Уладзімір Кузьменка і Хрысьціна Балаховіч. Ад Саюзу Палякаў — Марыя Матусэвіч. Асаблівых надзей на ўдачу ў гэтых выбарах мы не ўскладалі. Таму, сказалі мы сабе, калі нават і ня будзем мець свайго дэпутата ў Сойме, тое дазнаньне, якое мы здабудзем, будзе карысным нам у будучыні.

Апрача таго, нашы кандыдаты разам з кандыдатамі іншых палітычных партый і рухаў мелі нагоду выступіць у сродках масавай інфармацыі — у друку, па радыё, на тэлебачаньні — і дзякуючы гэтаму яшчэ раз зьвярнулі ўвагу насельніцтва на прысутнасьць у Летуве беларусаў ды іхную неабыякавасьць да грамадзкага і палітычнага жыцьця Рэспублікі.

*Ад Рэдакцыі:* У другім туры выбараў 16 лістапада партыя Бразаўскага здабыла яшчэ 35 галасоў і будзе мець найменш 79 месцаў са 141 у новым парлямэнце. «Саюдзіс», які ў выбарах 1990 г. здабыў 97 месцаў, цяпер будзе мець толькі 35. З чатырох беларускіх кандыдатаў не прайшоў ніводзін.

## МЕРКА КАМУНІСТАЎ У ВС БЕЛАРУСІ

У выніку маскоўскага путчу ў жніўні летась, ВС Беларусі прыняў 25 жніўня 1991 г. пастанову аб роспуску Кампартыі Беларусі і канфіскацыі ейнае маемасьці. Сёлета ў беларускім Парлямэнце адбылося 20 кастрычніка галасаваньне, ці ўключаць у парадак дня сэсіі ВС пытаньне «аб адмене Пастановы ВС РБ ад 25 жніўня 1991 г.».

Супраць уключэньня гэтага пункту ў парадак дня сусэсіі прагаласавала 37 дэпутатаў, у тым ліку Станіслаў Шушкевіч. За ўключэньне было пададзена 186 галасоў, у тым ліку, між іншага, Ніла Гілевіча й Пётры Садоўскага.

Хоць бальшыня сяброў Народнага Фронту галасавала супраць уключэньня, некаторыя проста не галасавалі, а сярод гэтых апошніх: Зянон Пазьняк, Леанід Баршчэўскі, Уладзімір Заблоцкі, Алег Трусаў і Яўген Цумараў. Не галасаваў таксама Вячаслаў Кебіч. Усіх, што не галасавалі, налічваецца 81 дэпутат.

Усіх дэпутатаў у ВС Беларусі — 346.

***«Беларус» інфармуе Беларусь аб падзеях на Захадзе***

## ДАПАМОГА АХВЯРАМ ЧАРНОБЫЛЯ

Чарнобыльская катастрофа кранула глыбока ня толькі тэрыторыі заражаныя радыяцыяй, але ўсё чалавецтва ды асабліва нас, беларусаў за мяжою. Мімаволі паўставала пытаньне, чаму й гэтае няшчасьце пала на нашую краіну, на наш народ. Рада БАПЦ з самага пачатку ўключылася ў працэс дапамогі праз пасярэдніцтва між беларускімі дабрадзейнымі арганізацыямі ды амэрыканскімі ўстановамі, зьбіраньнем сродкаў на дапамогу ды высылкай мэдыкамэнтаў. Мы хутка зразумелі, што тут патрэбная адмысловая ўстанова для гэтай мэты.

У красавіку 1989 году на паседжаньні Рады БАПЦ быў заснаваны Фонд Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі. Пачалося зьбіраньне сродкаў. У штаце Нью-Джэрзі мы былі адны зь ініцыятараў, на просьбу якіх губэрнатар штату Джэймс Флёрыё абвесьціў у 1991 годзе, у пятую гадавіну чарнобыльскага выбуху, дзень 26-га красавіка «Днём Чарнобыля ў Нью-Джэрзі», каб зьвярнуць увагу грамадзтва на патрэбу дапамогі.



FUND FOR CHERNOBYL VICTIMS IN BELARUS

# ДАПАМОГА БЕЛАРУСКАЙ АЎТАКЕФАЛЬНАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ АХВЯРАМ ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ ТРАГЭДЫІ



ФОНД ДАПАМОГІ АХВЯРАМ ЧАРНОБЫЛЯ Ў БЕЛАРУСІ

Павялічыўшы наш фінансавы фонд, мы навязалі лучнасьць зь некаторымі фармацэўтычнымі фірмамі ды ўстановамі, што дастаюць мэдыкамэнты на дабрадзейныя мэты па моцна зьніжанай цане. Нягледзячы на пачатковы зьніжаны кошт мэдыкамэнтаў, апакоўка іх, транспарт самалётам ці караблём і грузавікамі на месца прызначэньня ў Беларусі, патрабуюць шмат грошай.

У лютым і сакавіку сёлета Камісія БАПЦ у складзе Мітрапаліта Мікалая, сп. Міколы Ганька й Васіля Русака езьдзіла ў Беларусь, каб на месцы азнаёміцца з сытуацыяй: наведаць мэдычныя ўстановы ды спаткацца з прадстаўнікамі мэдыцынскай прафэсіі, непасрэдна зьвязанымі з насьледкамі Чарнобыля. Іншымі мэтамі падарожжа былі: навязаньне кантактаў з урадавымі коламі, Праваслаўнай Царквой Беларусі, Беларускім Народным Фронтам, які плянаваў нашае падарожжа, ды наведаньне сьвятых месцаў Беларусі й культурных установаў.

У пошуках практычнай і эканамічнай разьвязкі справы мэдычнай дапамогі для Беларусі мы ізноў зьвярнуліся да сьвятара Пола Мора, кіраўніка ўстановы Сітыгоўп Інтэрнашнэнал. Сп. Мор і яго жонка Шарон калісь сказалі, што яны пасьвяціліся справе дапамогі хворым дзецям на Беларусі, маюць там свой склад і наагул добра азнаёмлены з палажэньнем на месцы. Яны ўжо шмат разоў былі на Беларусі. Дастойны Пол Мор запрапанаваў нам вельмі добрыя ўмовы на куплю, мэдыкамэнтаў ды іншых рэчаў і транспарт. Такім чынам, мы дамовіліся на высылку ў Беларусь чатырох кантэйнэраў мэдыкамэнтаў, мэдычных прыладаў ды рэчаў, патрэбных для шпіталёў. Для ідэнтыфікацыі ахвярадаўцаў была наклееная на кожную пачку налепка «ДАПАМОГА БЕЛАРУСКАЙ ЎТАКЕФАЛЬНАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ АХВЯРАМ ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ ТРАГЭДЫІ». У кожную чацьвертую ці пятую пачку быў уложаны ліст ад Фонду Дапамогі.

Вартасьць высланых мэдыкамэнтаў, мэдычных прыладаў ды шпітальных матар'ялаў ацэньваецца на два з палову мільёны даляраў. Сярод высланых рэчаў былі: атныбіётыкі, сульфаты, вітаміны, асьпірын і тайленол, лекі ад тырою, шпітальная вопратка, прасьціны, ультрагукавы апарат, звычайная вопратка й абутак. Усё прыбыло ў Менск у канцы кастрычніка. Сп-ва Сільвановічы, якія былі там у гэтым часе, дапамагалі ў арганізацыі распадзелу, якім далей кіруе там сп-ня Шарон Мор.

**В. Русак**

## *ШЭФ КДБ БЕЛАРУСІ ХОЧА НАВЕДАЦЬ ЗША*

Сп. Канстанцін Мерляк, быўшы ў Менску на сьвяткаваньні 1000-годзьдзя Полацкае епархіі, склаў 23 верасьня візыт сп. Эдуарду Шыркоўскаму, старшыні Камітэту Дзяржаўнае Бясьпекі Беларусі. Сп. Шыркоўскі быў у суправаджэньні свайго памочніка Віктара Дзімітрыева, а. сп. Мерляк — у суправаджэньні сп-ні Валянтыны Трыгубовіч.

Мэтай візыту сп. Мерляка было «абмяняцца агульнымі думкамі, а можа на прышласьць і цясьнейшымі ў грамадзкім разуменьні».

Генэрал Шыркоўскі нагадаў сваім наведнікам, што ён «першы беларус на гэтай пасадзе ў КДБ беларускай дзяржавы». Пра мінулы пэрыяд беларускай дзяржаўнасьці Шыркоўскі сказаў, што «сувэрэннасьці беларускай ніхто не перасьцерагаў. Гандлявалі землямі й людзьмі. Пааддавалі беларускія землі без патрэбы». Пры гэтым ён выказаў намер наведаць Злучаныя Штаты: «Можа ў канцы гэтага году, а можа ў пачатку 1993-га. Я паеду, — сказаў ён, — я хачу сустрэцца зь землякамі, хачу адказаць на ўсе пытаньні, якія будуць. Хачу выступіць там і думаю, што гэта будзе для мяне вельмі цікавая сустрэча».

Што да будучыні Беларусі, дык ген. Шыркоўскі сказаў, што «Мы ня будзем залежаць ні ад каго: ні ад Расеі, ні ад амэрыканцаў, ні ад французаў. Беларусь далжна быць і яна будзе самастойнай... І яшчэ адно я вам скажу, як я думаю, — дадаў ён: — ніколі ніякага павароту назад ня будзе. Ніякай фэдэрацыі, ніякай канфэрацыі. Беларуская дзяржава будзе сувэрэннай дзяржавай і ўжо не павярнуць гэта кола гісторыі, якое назад ня пойдзе, як ты яго ні круці».

Адказваючы на пытаньне сп-ні Трыгубовіч аб тым, ці не інсьпіруе КДБ артыкулаў у беларускім друку аб супрацоўніцтве, быццам-бы, ген. Езавітава і ген. Кушаля з савецкімі разьведвальнымі органамі, ген. Шыркоўскі сказаў: «Нічога мне не вядома, ніхто нічога ня пытаўся. І вельмі мне самому няпрыемна, што я ня знаю і ня чытаў дажа. Скажу вам, што гэтая пісаніна ўся — гэта камарыная вазьня». Памочнік Шыркоўскага Дзімітрыеў зазначыў са свайго боку: «Зараз доступ да нашых архіваў маюць вельмі многа вучоных і прочых. Вось са сваіх пазіцый і інфармуюць».

## НЕРЭФАРМАВАНЫ КАМІТЭТ ДЗЯРЖАЎНАЙ БЯСЬПЕКІ

У артыкуле пад заг. «КДБ Беларусі: у пошуках тоеснасьці» (RFE/RL Research Report) чытаем, что службоўцы КДБ яшчэ ня склалі прысягі на вернасьць Беларусі: штат Камітэту застаўся бязь зьменаў; помнік Дзяржынскаму перад будынкам КДБ стаіць і надалей, гэтак-жа як і застаюцца візець надалей у канцылярыях чэкістаў партрэты «жалезнага Фэлікса». «Беларускі КДБ, — чытаем у артыкуле, — быў адзіны, які масава пратэставаў супраць таго, каб гаварыць амэрыканцам аб падслухоўвальных уладжаньнях у амэрыканскім пасольстве ў Маскве». У інтэрв'ю на пачатку сёлетняга году ген. Шыркоўскі рабіў выпады супраць генэрала-іншадумца Алега Калугіна, абвінавачваючы яго ў «заўсёдный хлусьні». На думку Шыркоўскага, КДБ Беларусі нагэтульки інтэграваны ва ўсесаюзную сетку, што ён ня можа функцыянаваць асобна, як сувэрэнная адзінка. Дарэчы, калі расейскі КДБ пазбавіўся свае пракуднае абрэвіятуры (КГБ), пераназваўшыся ў Міністэрства Бясьпекі (МБ), у Менску пануе дух Вандэі, і КДБ застаецца КДБ. Праўда, ад лістапада 1991 г. ён падпарадкаваны ня ўраду, як раней, а Вярхоўнаму Савету.

На парадку дня бягучай сэсіі Вярхоўнага Савету Беларусі, якая пачалася 20 кастрычніка сёлета, сярод 95 пунктаў стаіць пункт 23-ці: «Аб праекце Закону 'Рэспублікі Беларусь 'Аб Камітэце дзяржаўнай бясьпекі Рэспублікі Беларусь''». (*Зв*,23.X) Пакуль няма рэспубліканскага закону, як і ўва ўсіх падобных выпадках, у дачыненьні да КДБ дзеіць стары ўсесаюзны закон, прыняты ў траўні 1991 году.

ТАСС у сваім паведамленьні зь Менску 3-га верасьня сёлета падаў, пра падпісанае папярэдняга дня пагадненьне разьведвальных службаў Расеі й Беларусі, паводле якога яны будуць устрымвацца ад дзеяньняў на тэрыторыі адна аднае. Пагадненьне падпісаў зь беларускага боку ген. Шыркоўскі, а з расейскага — ягоны адпаведнік Яўген Прымакоў. Інтарэсы Расеі й Беларусі, сказаў на прэсканфэрэнцыі Прымакоў, у шмат чым супадаюць. Арганізацыі сакрэтных службаў абедзьвюх рэспублік згадзіліся супрацоўнічаць у зьбіраньні пераважна эканамічнае інфармацыі за межамі сваіх рэспублік, а таксама ў абмене іншымі матар'ямі ды ў вышкольваньні пэрсаналу. Двубаковыя пагадненьні беларускі КДБ падпісаў таксама з Казахстанам і Украінай.

Пра тое, што ў Беларусі «засталася нерэфармаванай структура КДБ», задала пытаньне лідэру БНФ і народнаму дэпутатаў ВС Зянону Пазьняку карэспандэнтка газэты «Зьвязда» Галіна Айзэнштат. Сп. Пазьняк адказаў:

«Усякае 'варушэньне' пытаньня пра КДБ у гэтым Вярхоўным Савеце можа прывесьці толькі да горшага ўмацаваньня КДБ. Добра, што ў гэтых абставінах падпарадкавалі яго Вярхоўнаму Савету. Зрэшты, урад мае на КДБ сваё вока і ня выключана, што на гэтай сэсіі ўзьнікне пытаньне аб падпарадкаваньні КДБ Саўміну (ураду — рэд. «Б-са»). Вось і ўся рэформа. Магчымыя вынікі яе, спадзяюся, усім зразумелыя».

## АМЭРЫКАНСКАЯ ДАПАМОГА БЕЛАРУСІ

У чэрвені сёлета разам зь ведамай нам сям'ёй Мораў (Полам, Шэран і Полам-малодшым) паехалі на Беларусь блізу васьмі дзесяткаў амэрыканцаў-дабраахвотнікаў, каб перадаць гуманітарную дапамогу ў раёны, забруджаныя радыяцыяй. Гэта была першая афіцыйная дапамога, прызнаная амэрыканскім Міністэрствам сельскай гаспадаркі, на чале якога стаіць сп. Эдвард Мэдылан.

Дапамога была дастаўленая ў 156 населеных пунктаў на Беларусі. Яе атрымалі 75 лякарняў (у тым ліку 19 дзіцячых) і 93 грамадзкія арганізацыі ў самых розных мясцінах Беларусі.

Агульная вага дапамогі склала 3.500 мэтрычных тонаў, або сем мільёнаў фунтаў. Сярод прадуктаў харчаваньня былі рыс і мука, алей і сухое малако, цукар, малако для дзяцей і шакаляда.

Мяне моцна зьдзівіла самаахвярнасьць згаданых васьмі дзесяткаў амэрыканцаў, якія не пашкадавалі двух тыдняў свайго часу, самі аплацілі дарогу і свой побыт на Беларусі. Раздаючы дапамогу, яны бліжэй пазнаёміліся зь беларускім народам, лепш зразумелі ягоную душу, палюбілі нашу Радзіму і, як вынікае зь іхных словаў, гатовыя былі вярнуцца сюды яшчэ раз з гэткай самай місіяй. Да такіх словаў іх, бязумоўмна, натхніў і асабісты прыклад сям'і Мораў, якая за апошнія два гады была на Беларусі ўжо дваццаты раз.

У часе гэтай паездкі трапілі мы ў Менску на афіцыйнае адкрыцьцё офісу арганізацыі Сіты Гоўп Інтэрнашэнал, якой кіруе дастойны Пол Мор.

Адзінае, што мне як беларусцы крыху азмрочвала ў тыя незабыўныя дні настрой, дык гэта тое, што дапамога праходзіла пад расейскім назовам («Надежда экспресс»). Думаецца, надыйшоў час, каб арганізатары падобных дапамаговых акцыяў для беларусаў карысталіся беларускай мовай.

**Вера Бартуль**

### АНТАЛЁГІЯ ЭМІГРАЦЫЙНАЙ ПАЭЗІІ

У выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшла пяцітысячным тыражом салідная анталёгія беларускай эміграцыйнай паэзіі пад заг. «Туга па Радзіме». На 630 старонках кнігі зьмешчаныя вершы 15 аўтараў: Н. Арсеньневай, В. Адважнага, А. Смаленца, А. Змагара, Р. Крушыны, Х. Ільляшэвіча, У. Дудзіцкага, Я. Золака, У. Клішэвіча, М. Сяднёва, М. Кавыля, Я. Юхнаўца, А. Салаўя, С. Ясеня і А. Бярозкі.

# НАВЕДАНЬНЕ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ-БЕЛАРУСІ

### Зборы ў дарогу

Летась восем асобаў на чале зь Сяргеем Карніловічам з Кліўленду, штат Агаё, наведалі Беларусь. Іх спансаравала менская арганізацыя Згуртаваньне Беларусаў Сьвету «Бацькаўшчына». Госьці «Бацькаўшчыны» свабодна наведалі Беларусь, пазнаёміліся з гарадамі, прыгожымі краявідамі, пабачыліся са сваякамі, знаёмымі. Гэтая вестка хутка разыйшлася ў Амэрыцы, і сёлета шмат хто зьвярнуўся да сп. Карніловіча, каб дапамог ім наведаць Беларусь.

Сп. Карніловіч скантактаваўся з «Бацькаўшчынай», якая згадзілася запрасіць усіх і забясьпечыць памешканьнем і транспартам. Сп. Уладзімір Сакалоўскі, беларускі консул у Нью-Ёрку, дапамог усім дастаць візы. На працягу двух месяцаў назьбіралася 34 асобы: найбольш з Кліўленду, але таксама зь Нью-Джэрзі, Нью-Ёрку, Ілінойі, Мічыгану, Каліфорніі ды Канады. Бальшыня зь іх ехалі ўпяршыню на Беларусь, якую пакінулі яшчэ дзяцьмі ў 1943-44 годзе.

### Упяршыню на беларускім самалёце

І так, у нядзелю 17 ліпеня 1992 г. сабраліся ўсе ў Нью-Ёрку на лётнішчы Кенэды з мэдыкамэнтамі розных сартоў (52 вялікія пачкі) для чарнобыльцаў. Амэрыканская, ірляндзкая і беларуская авіякампаніі згадзіліся правезьці мэдыкамэнты задарма. Вылецеўшы зь Нью-Ёрку ірляндзкім самалётам, на лётнішчы ў Шаноне мы пераселі на беларускі самалёт «Беларусь» з намалёваным бел-чырвона-белым сьцягам. Праўда, мелі крыху праблемы: самалёт быў перагружаны і ня ўсе мэдыкамэнты змаглі памясьціць у багажнік, давялося крыху пачак узяць у пасажырскі салён, дзе іх параскладалі на падлогу. Уся абслуга самалёту была зьдзіўленая, што цэлая група амэрыканцаў так добра гутарыць па-беларуску. Стуардэсы былі ветлівыя й таксама карысталіся беларускай мовай.




### Знаёмства з дастойным Полам Морам

Гэтым самалётам з намі ехалі Пасол Беларусі пры Аб'еднаных Нацыях Генадзь Бураўкін з жонкаю, Часовы Паверыны РБ у Вашынгтоне Сяргей Мартынаў зь сям'ёю і ведамы амэрыканскі сьвятар Пол Мор, які дастаўляе ў Беларусь розныя мэдыкамэнты, зьвязаныя зь лячэньнем ад чарнобыльскай радыяцыі. Тут мы мелі магчымасьць пазнаёміцца зь ім, і ён расказаў, што гэта ўжо 20-е падарожжа ў Беларусь. Затым паказаў нам дакумэнты з камп'ютэра з дадзенымі пра шпіталі, якія займаюцца лячэньнем хваробаў, зьвязаных з чарнобыльскай радыяцыяй; колькі й якіх мэдыкамэнтаў і апаратуры ўжо атрымалі; якіх рэчаў яшчэ патрабуюць. І так, ужо дастаўлена да гэтага часу мэдычнае дапамогі на суму больш як 15 мільёнаў даляраў. Упяршыню мы пазнаёміліся зь вялікай прапроблеНай і надалей заплянованай працай сьвятара Мора. Адно толькі ён зазначыў: яму патрэбнае другое й большае памешканьне ў Менску для вядзеньня далейшай працы. Тут сьвятару Мору хочам выказаць шчырую падзяку за вялікія дасягненьні ў праробленай працы ды пажадаць яму добрых посьпехаў у далейшым змаганьні з чарнобыльскай катастрофай.

### У Менску: кветкі й транспаранты

У менскай мытні ўсё прайшло добра, мала пыталі й правяралі, а скрынак з мэдыкамэнтамі не правяралі наагул. На другім баку кантрольных пунктаў стаяла вялікая грамада людзей, якія махалі й віталі рукамі, а мы ўсе адмахвалі, але мала каго пазнавалі, ня ведалі, ці гэта вітаюць нас сваякі, ці хто іншы. Пазнаўшы родных, пачалі вітацца і плакаць з радасьці, многія ўручалі кветкі. Ад арганізацыі «Бацькаўшчына» нас спаткалі старшыня Яўген Лецка, Леанід Казыра, ягоны заступнік, а таксама Барыс Стук, Ірына Жарская й Ганна Сурмач.

Едучы аўтобусам у гасьцініцу «Мінск», мы бачылі на вуліцах плякаты з рознымі надпісамі, гэткімі як «Жыве Беларуская Сувэрэнная Рэспубліка!». Былі павывешваныя бел-чырвона-белыя сьцягі каля дамоў. Пазьней мы даведаліся, што гэта была другая гадавіна, калі 27 ліпеня Парлямант Беларусі абвесьціў Рэспубліку сувэрэннай дзяржавай.

Нас разьмясьцілі ў гасьцініцы «Мінск», дзе мы павячэралі й пайшлі адпачываць.

### Аўтабусам па Менску

У аўторак 28 ліпеня паехалі аўтобусам з правадніком Алесем Каралём адведаць Менск. Прыбылі на Плошчу Незалежнасьці (былая Леніна). Раней тут заўсёды адбываліся парады й дэманстрацыі камуністычныя. Апошнімі гадамі пачаліся ўжо першыя нелегальныя беларускія нацыянальныя дэманстрацыі, зьвязаныя з Курапатамі, угодкамі 25-га Сакавіка. А цяпер ужо адбываюцца легальныя беларускія зборкі й дэманстрацыі. Праваднік Каралёў вельмі добра расказаў пра горад як у часе вайны, гэтак і ў паваенным часе. Між іншага, ён зазначыў, што Плошча Незалежнасьці — найбольшая ў Эўропе. Вакол яе знаходзяцца: Дом Ураду, Беларускі Дзяржаўны Ўнівэрсытэт, Гарадзкая Ўправа, Пэдагагічны Інстытут, Тэлеграф Беларусі, вялікая гасьцініца «Мінск». Да гэтага часу на плошчы стаіць помнік Леніна.

Праехалі па праспэкце Скарыны (былы Леніна), паехалі на Плошчу Перамогі, а далей — у Стары Горад, дзе знаходзіцца Сьвята-Духаўскі праваслаўны сабор, які цяпер поўнасьцю аднаўляецца звонку і ўсярэдзіне і адначасна праводзяцца цэлы час службы; наведалі парк імя Янкі Купалы, Музэй старажытнага мастацтва. Вельмі цікавыя ўспаміны выявіліся ў часе наведваньня гэтага музэю ў нашых жанчынаў. Яны прыпомнілі, як іх калыхалі ў дзеравяных калысках, а старэйшыя жанчыны — як яны ткалі на кроснах ды пралі кудзелю. Наагул, наведаньне музэю было вельмі цікавым для ўсяе групы, што зь цікавасьцю слухала тлумачэньні дырэктара Вольгі Царашчатавай ды ўважна разглядала экспанаты, пабачыўшы шмат чаго новага.

Далей праз вуліцу наведалі Батанічны Сад. Нас спаткала дырэктар Натальля Дуніна, маладая асоба, якая вельмі добра гутарыць па-беларуску. Яна паінфармавала, што парк займае каля ста гэктараў. Яны вырошчваюць у Батанічным Садзе шмат разнаякіх гатункаў кветак і дрэваў, насеньне якіх прадаюць у розных краінах на міжнародных рынках за валюту. Гэтым пытаньнем найбольш захапіліся ўсе нашы жанчыны, асабліва кветкамі, параўноўваючы іх з амэрыканскімі, так што мусілі абыйсьці ўвесь агарод кветак і расьлін. На разьвітаньне падзякавалі праваднічцы Натальлі за добры паказ і паясьненьні, пабралі адрасы, каб у наступным годзе дастаць насеньня і пасадзіць кветкі ў сябе дома ў Амэрыцы.

*(Працяг у наступным нумары)*

**Кастусь Калоша**

# 1000-ГОДЗЬДЗЕ ПОЛАЦКАЙ ЕПАРХІІ

### Наша дэлегацыя. Сустрэча зь Мітрапалітам

Сьвяткаваньне тысячагодзьдзя Полацкай епархіі на Беларусі было выдатнай падзеяй і адначасна дэманстрацыяй жыцьцёвай сілы Царквы і праваслаўнай веры.

Беларуская Праваслаўная Царква пачала рыхтавацца да гэтай юбілейнай даты шмат раней, а мы ў Амэрыцы даведаліся пра гэта толькі ўвесну 1992 году, калі атрымалі запросіны. Дэлегацыя ад Беларускай епархіі, што ў юрысдыкцыі Канстантынопальскага Патрыярхату, была ў наступным складзе: а. Грэгоры (О'Кіф), брат Міхаіл Эрэт, Кастусь Мерляк, Даніла Мерляк і Васіль Шчэцька з прыходу Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле ў Нью-Ёрку. Усё было ўзгоднена з а. пратапр. Сьвятаславам Каўшом і Экзархам Архіепіскапам Якавасам.

Нашым праваднікам па Менску ад сьвяткавальнага камітэту быў Мікалай Матрунчык, старшыня Брацтва трох Віленскіх Мучанікаў пры Петрапаўлаўскім саборы. Пры ягоным садзеяньні К. Мерляк і В. Шчэцька мелі магчымасьць 20 верасьня спаткацца з Мітрапалітам Філарэтам у Епархіяльным Доме. Уладыка аказаўся вельмі гаваркім і прыемным чалавекам і прыняў нас пасяброўску, пачаставаў манастырскім квасам, распытаў пра нашы ўражаньні, гаварылі і аб Амэрыцы. Сп. Мерляк перадаў Уладыку некаторыя публікацыі і папрасіў зрабіць асобнае спатканьне, каб высьніць некаторыя царкоўныя пытаньні. Пасьля спатканьня з Уладыкам мы пазнаёміліся са старшынём аргкамітэту сп. Генадзем Шэйкінам ды іншымі асобамі.

Увечары таго-ж дня мы пабылі на вячэрні ў Петрапаўлаўскім саборы. Служыў а. Георгій (Латушка), настаяцель. Сабор патрабуе рэстаўрацыі. Ён быў перароблены на архіўны будынак і толькі нядаўна горад перадаў яго царкоўным уладам.

У часе прыняцьця, якое адбылося пасьля багаслужбы, прысутныя вельмі цікавіліся нашай дэлегацыяй, задавалі шмат пытаньняў. Тут сп. Мерляк, які даваў агульную інфармацыю, выказаў пажаданьні, каб царква на Беларусі сталася аўтакефальнай, што разьвязала-б беларускія царкоўныя праблемы на эміграцыі.

### Замежныя госьці. Прыняцьце

У гасьцініцы «Планета», куды мы перабраліся зь «Мінску», мы пабачылі многа гасьцей духоўнага стану: тут былі пасяліўшыся 17 епіскапаў і вышэйшых іерархаў, манахаў ды мноства сьвятароў і клеру. Было шмат сьвецкіх асобаў, што прадстаўлялі ўстановы і цэрквы. Цікава было бачыць у сталоўцы гэтульк і духаўнікоў у адным месцы.

Папаўдні прылецелі Люфтганзаю а. Грэгары і брат Міхаіл, якіх мы сустракалі на аэрапорце Менск-2. Едучы адтуль у Менск, а. Грэгоры сказаў, што краявіды Меншчыны нагадваюць яму штат Мэйн.

З аэрапорту мы адразу паехалі ў Беларускую гімназію нумар 199. Тут адбыўся інсцэнізаваны паказ таго, як бальшавікі перад вайной нішчылі беларускіх праваслаўных сьвятароў. У залі былі вучні, настаўнікі, шмат сьвятарства і сьвецкіх дэлегатаў. Дзяўчаты віталі гасьцей кветкамі. У ходзе паказу вучні чыталі імёны выгубленых духаўнікоў. Жахліва было слухаць, як камуністы забівалі сьвятароў.

У часе прыняцьця, якое адбылося пасьля паказу і якое вяла энэргічная дырэктар гімназіі Людміла Карагіна, інфармуючы гасьцей аб патрэбах ейнай школы, прамаўляў сп. Мерляк. Гэта была найлепшая прамова, якую я калі чуў з вуснаў К. Мерляка.

Пасьля малебну ў Сьвята-Духавым катэдральным саборы Уладыка Філарэт прыняў удзельнікаў сьвяткаваньня ў Епархіяльным Доме, выказаў задаваленьне, што яны так лічна прыбылі на ўрачыстасьць. Узьдымаліся тосты і за гасьцей, і за гаспадара, якому ўся заля адсьпявала «Многая лета». Ад нашай дэлегацыі вітаў Уладыку а. Грэгоры. Мітрапаліт Філарэт аказаўся выдатным гаспадаром, адарона кіраваў бяседай, падчас якой усе чуліся як дома. На разьвітаньне кожны дастаў праграму сьвяткаваньня ды падарунак на ўспамін.

### Людная канфэрэнцыя

У пятніцу 25 верасьня ў Акадэміі Навук адбылася людная канфэрэнцыя, якую адкрыў Уладыка Філарэт і дакладчыкамі на пленарным паседжаньні якой былі: прат. Сергій Гардун з жыровіцкай Духоўнай Сэмінарыі («Тысячагадовы шлях Праваслаўя на беларускай зямлі»), праф. Г. Штыхаў зь Менску («Асноўныя этапы Праваслаўнай Царквы на Беларусі»), др. Ю. Лабынцаў з Масквы («Полоцк — колыбель Православия на Беларуси»), канд. А. Мельнікаў зь Менску («Путь непечален»: исторические свидетельства о святости на Белой Руси»), еп. Канстанцін з Жыровічаў («Новогрудская епархия — от основания до настоящего времени»), еп. Пётр з Мазыра («Тураўская епархія»), мгр. М. Гайдук зь Бела-

*(Працяг на 5-й с.)*

# 1000-ГОДЗЬДЗЕ

(Заканчэньне з 4-й с.)

стоку («Праваслаўная Царква на Беласточчыне»), сп. М. Ганько з Таронта («Тысяча год Праваслаўя на Беларусі»), В. Н. Дышыневіч зь Менску («Белорусская тематика в диссертациях Московской и Санкт-Петербургской Духовной Академии»), і архіеп. Максім з Магілева («Архиепископ Георгий Конисский. К вопросу о канонизации»). Далей працавалі сэкцыі канфэрэнцыі.

**Дарога праз Заслаўе**

У суботу 26-га чатыры аўтобусы гасьцей ад'ехалі ў Заслаўе, дзе, паводле легенды, каля тысячы гадоў таму жыла княгіня Рагнеда (пазьней Анастасія) са сваім сынам Ізяславам. Тут на старажытным гарадзішчы адбылося асьвячэньне крыжа. Адсюль паехалі ў само мястэчка Заслаўе. Там на гарадзкой плошчы кіраўнікі гораду віталі духаўнікоў і гасьцей (ужываючы цікавы зварот: «товарищи»). Адбыўся хрэсны ход да Спаса-Прэабражэнскае царквы, перад якой адслужылі малебен. Надвор'е стаяла сонечнае, народу было шмат, выдатна сьпяваў хор, настрой быў надзвычайна малітоўны і ўрачысты.



Перад хрэсным ходам з мошчамі сьв. Эўфрасіньні на Саборнай плошчы манастыра ў Полацку.

**У Вярхоўным Савеце. У тэатры**

Папаўдні мы з групаю ўдзельнікаў юбілейных урачыстасьцяў наведалі Вярхоўны Савет, дзе дэлегацыю спаткаў Старшыня ВС Станіслаў Шушкевіч. Адбыўся абмен інфармацыяй, пажаданьнямі. Ад беларусаў Амэрыкі пажаданьні на адрас Вярхоўнага Савету і Ўраду выказаў сп. Мерляк.

Падарозе на Полацак яшчэ раз спыніліся на абед у Дамжэрыцах. Там мясцовыя дзяўчаты ў нацыянальных строях, аркестр народных інструмэнтаў і сьпявачка частавалі гасьцей музыкай і песьнямі (сьпявачка найбольш па-расейску).



Удзельнікі сьвяткаваньня ў Вярхоўным Савеце Беларусі на сустрэчы са Старшынём ВС Станіславам Шушкевічам (у канцы стала).

Увечары ў Вялікім Тэатры Опэры й Балету адбылося ўрачыстае паседжаньне і канцэрт. Прамаўлялі на вечары Мітрапаліт Філарэт, Старшыня ВС Шушкевіч, госьці. На вуснах усіх гучэла слова «Беларусь». Паміж іншымі вітаньнямі прагучэла па-ангельску, зь беларускім перакладам, прывітаньне і ад нашай епархіі, зь якім выступіў а. Грэгоры.

Канцэрт быў надзвычайны. Аркестры, сьпевакі, вялікія хоры, дэкарацыі — усё рабіла незабыўнае ўражаньне, выклікала непаўторнае пачуцьцё. Закончылася праграма адсьпяваньнем вялікім хорам «Магутны Божа».

Багаты на падзеі дзень закончыўся прыняцьцём у гасьцініцы «Юбілейная», дзе было людна, прыгожа, з багатым пачастункам, і дзе была нагода пазнаёміцца й пагаварыць з выдатнымі асобамі. Сапраўды, такое здараецца раз у жыцьці.

**У Полацку — кульмінацыя**

У Полацку нас нехта вітаў цёпла й па-беларуску ад «слаўнага гораду Полацку». Разьмясьціліся мы ў гасьцініцы «Дзьвіна». Сьвяточная вячэрня ў Сьвята-Крыжа-Ўзьдзьвіжанскім саборы трывала чатыры з палавінаю гадзіны. Вельмі ўрачыста адбылася на наступны дзень Узьдзьвіжаньня багаслужба ў прыгожым, хоць яшчэ ня поўнасьцю рэстаўраваным, саборы.

Пабылі ў Спаса-Прэабражэнскай царкве, якая знадворку выглядае прыгожа, але ўнутры адбываецца яшчэ рэстаўрацыйныя работы.

У нядзелю ў Сафійскім саборы, куды былі ўнесеныя часова іконы — сабор яшчэ ўсё выкарыстоўваецца як зала для музычных канцэртаў — адбылася ўрачыстая багаслужба на ўшанаваньне юбілею. Служыла ўсё духавенства: 17 вышэйшых іерархаў, у тым ліку Мітрапаліт Дамаскін, Экзарх Канстантынопальскага Патрыярха на Эўропу. Пышнасьць адзежы й вялікая колькасьць духавенства красамоўна сьветчылі пра важнасьць юбілею, а вялізарны наплыў народу — пра веліч славы Божае ў сэрцах людзей.

Багаслужба ўнуры сабору, напоўненага вернікамі, перадавалася праз галосьнікі навонкі, дзе знаходзілася гэтулькі-ж народу, як і ў царкве.

Паўз гэтае сьвятое месца спакойна, як і тысячу гадоў таму, плыла велічная Дзьвіна ў сваіх высокіх берагох.

Па заканчэньні сьв. Літургіі адбыўся хрэсны ход праз горад да Спаса-Еўфрасіньнеўскага манастыра. Разам з духавенствам ішлі Старшыня ВС Станіслаў Шушкевіч і іншыя кіраўнікі ўраду. Паперадзе працэсіі самаход з галосьнікамі вяшчаў на ўсё навакольле ход багаслужбы.

На саборную плошчу Спаса-Прэабражэнскай царквы былі вынесеныя мошчы сьв. Еўфрасіньні Полацкае і з хрэсным ходам абнесеныя па плошчы, усыпанай кветкамі. Тут Уладыка Філарэт прымаў юбілейныя прывітаньні.

Урачыстасьць закончылася прэсканфэрэнцыяй у Трапезнай царкве.

На завяршэньне сьвята было наладжанае людное прыняцьце, на якім можна было пазнаёміцца ня толькі з гасьцьмі здалёк, але й з выдатнымі мясцовымі вернікамі й кіраўнікамі, проста й адкрыта пагаварыць зь імі аб надзённых справах.

Нам было прыемна быць удзельнікамі 1000-гадовага юбілею Праваслаўнай Царквы на Беларусі. Хрысьціянства ў нашай гісторыі — гэта той рычаг, дзякуючы якому наш народ узьняўся на творчыя вышыні, гэта тая крыніца, што дала нашаму народу выдатных духаўнікоў, пісьменьнікаў, філёзафаў, мастакоў, праўнікаў ды дзяржаўных мужоў.

Дзякуем Уладыку Філарэту, Сьвяткавальнаму камітэту за так удалую арганізацыю юбілейных урачыстасьцяў, за цёплае брацкае прыняцьце нас ды жадаем посьпехаў у працы на карысьць Царквы і Беларусі.

**Васіль Шчэцька**

## BYELORUSSIA. HISTORICAL OUTLINE

Historical meterials collected, reviewed and prepared for publication by Ivan Kasiak. London: Byelorussian Central Council. 1989. XXVIII + 346 p.

Нядаўна зьявілася ў продажы, запачаткаваная больш за дваццаць гадоў таму, кніга Івана Касяка «Беларусь. Гістарычны нарыс». Складаецца яна зь перакладу ў ангельскую мову працы Язэпа Найдзюка «Беларусь учора і сяньня» (Менск, 1943) (разьдзелы I-XXIX) і разьдзелаў напісаных І. Касяком (XXX-XXXX), якія ахопліваюць паваенны пэрыяд аж да сярэдзіны 1970-х гадоў. Выданьне ілюстраванае, на добрай паперы, мае бібліяграфію, слоўнічак асабістых і геаграфічных імёнаў па-беларуску, па-ангельску, па-расейску, па-польску і па-летувіску ды паказьнік прозьвішчаў і назоваў. Кніжка, на жаль, не пазбаўлена памылак, апісак у прозьвішчах (прыкладам, Кішэль, Луцквічуй, Станківіч замест Кушэль, Луцкевіч, Станкевіч). Некаторыя мясьціны кнігі паказваюць на недасканальнае веданьне ангельскае мовы. Тым ня менш, праца І. Касяка паслужыць справе папулярызацыі на Захадзе веды пра Беларусь.

Кнігу можна набыць пры царкве Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры. Цана: 20 даляраў.

## ПАМЕРЫ БЕЛАРУСКАЙ ЗБРОІ

Пасьля трох з палавінаю гадзін спрэчак за зачыненымі дзьвярыма, як падала «Независимая газета» (23.X), ВС Беларусі ратыфікаваў 21 кастрычніка сёлета міжнароднае пагадненьне аб скарачэньні звычайных відаў зброі на беларускай тэрыторыі. За ратыфікацыю было пададзена 291 голас, устрымалася трох.

Пасьля сарака месяцаў на Беларусі не павінна быць больш як 1800 танкаў, 2600 бранявікоў, 1615 артылерыйскіх сыстэмаў, 260 баёвых самалётаў і 80 ударных верталётаў (гэлікоптэраў). Гэта значыць, што сваю багатую спадчыну зброі Беларусь павінна будзе скараціць на больш як 1500 танкаў, 2000 бранявікоў і 130 самалётаў. Колькасьць ваеннаслужачых да канца саракамесячнага тэрміну не павінна перавышаць 100 тысячаў чалавек. Сёньня на Беларусі налічваецца мінімум ад 160 да 180 тысячаў войска, а паводля іншых дадзеных — 240 тысячаў.

## САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫ ДАМАГАЮЦЦА НЭЎТРАЛІТЭТУ БЕЛАРУСІ

Дваццаць адзін дэпутат ВС Беларусі падпісалі заяву выканкама Цэнтральнай Рады Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады, зьвяртаючы ўвагу грамадзтва на тое, што «ў праекце Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, які падрыхтаваны рабочай групай Канстытуцыйнай камісіі ВС, адсутнічаюць прынцыповыя палажэньні, замацаваныя ў Дэкларацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Рэспублікі, а менавіта, палажэньні аб імкненьні Беларусі набыць статус нэўтральнай, безьядзернай дзяржавы».

Заява «заклікае дэпутатаў-сяброў БСДГ, іншых дэмакратычных і патрыятычна арыентаваных парлямэнтарыяў галасаваць супраць усіх магчымых праектаў Канстытуцыі, якія будуць тым ці іншым чынам супярэчыць Дэклярацыі».

Прыняцьце Канстытуцыі — адно з галоўных пытаньняў парадку дня бягучае сэсіі Вярхоўнага Савету.

## СКАРЫНАЎСКАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ У ПАДУІ

*ФРАНЦІШКА СКАРЫНУ – У СЬВЯТЫЯ?*

У Падуанскім Унівэрсытэце адбылася 20 кастрычніка сёлета ўрачыстасьць адчыненьня мэмарыяльнай дошкі ў гонар дактаранта гэтага ўнівэрсытэту, палачаніна Францішка Скарыны. Дэлегацыю ад Беларусі на ўрачыстасьць ачольваў Міністар замежных спраў Пётр Краўчанка. Ягонае выступленьне зьмясьцілі газэты «Голас Радзімы» і «ЛіМ», і выдадзенае яно таксама асобнай брашурай па-беларуску й па-італьянску.

Пішучы пра ўрачыстасьць, газэта «Зьвязда» (29.X) адзначыла, што «італьянцы высока і шчыра ацанілі значнасьць асобы Скарыны і зробленага ім». Яшчэ больш цэняць скарынаўскую спадчыну, напэўна, у Міністэрстве замежных спраў Беларусі, якому Скарына дапамагае пракладваць гэтак патрэбныя сьцежкі на Захад.

У праграме скарынаўскіх урачыстасьцяў у Італіі адбылася таксама двухдзённая навуковая канфэрэнцыя ў Вэнэцыі. На ёй дырэктар менскага Скарынаўскага навукова-асьветнага цэнтру Адам Мальдзіс выказаў добрую ідэю («Зьвязда»): «прапанаваць царкве кананізаваць Скарыну ў якасьці сьвятога».

**Трэба сказаць, што асоба Францішка Скарыны выконвае выразна цудадзейную ролю ў сучасным працэсе ўваскрасеньня беларускага народу.**

*З жыцьця ў Канадзе*

## НАВЕДАНЬНЕ ДЗЯДЗЬКІ МІКОЛЫ

Прывітаньне з далёкай Беларусі прывезьлі дванаццацёра дзяцей Гэлене й Мікалаю Шустам, калі дзеці прыехалі да сп-тва Шустоў у Іпэрўош на запросіны гэтых цудоўных людзей, каб правесьці свой першы ўікэнд у Канадзе. Гэта ўжо другая група дзяцей, якая адпачывае ў Лёндане і праводзіць ўікэнд на дачы Мікалая Шуста. Дзеці прыехалі з Гомельскае вобласьці, з забруджаных радыяцыяй раёнаў, пераважна са шматдзетных сем'яў. Прыбыўшы ў Лёндан 12 верасьня, яны прабудуць тут да канца кастрычніка.

Гэлена й Мікалай Шусты, гэтыя шчырыя й чулыя людзі, былі аднымі зь першых канадыйцаў, хто акружыў дзяцей увагай, цяплынёй і любоўю. У часе наведаньня сп-тва Шустоў, 19-20-га верасьня, стаяла сонечнае надвор'е і, незважаючы на вецер, дзеці з задавальненьнем купаліся ў возеры Гурон, гулялі ў шматлікія гульні на пяску, каштавалі розныя смачныя ласункі, любоўна прыгатаваныя Мікалаем, а ўвечары сьпявалі ля агню ды знаёміліся з суседзямі Мікалая й Гэлены, якія прыйшлі прывітаць дзяцей, што прыехалі з далёкай Беларусі, каб падправіць здароўе і набрацца сілаў.

Мы ўсе вельмі ўдзячныя Мікалаю й Гэлене за цудоўны ўікэнд, за іх чуласьць і дабрыню, а таксама Барысу й Людміле Рагулям і ўсім добрым людзям, якія дапамагаюць выратоўваць дзяцей — будучыню Беларусі.

**Валянціна Вінакурава, настаўніца, кіраўнік групы.**

## СУДОВАЯ СПРАВА С. ГУТЫРЧЫКА

Фэдэральны судзьдзя штату Нью-Джэрзі Гарольд А. Акэрман пастанавіў 2 кастрычніка сёлета пазбавіць сп. Сяргея Гутырчыка амэрыканскага грамадзянства за ягоную ролю ў часе Другой сусьветнай вайны. Судовая справа С. Гутырчыка цягнулася больш за два гады. Як пісаў «Беларус» у верасьні 1990 году (гл. № 373), Міністэрства Юстыцыі ЗША абвінавачвае С. Гутырчыка ў тым, што ён служыў ахоўнікам у канцэнтрацыйным лягеры ў Калдычэве. Абвінавачаны аднак заяўляе, што калі ён служыў у Калдычэве ўлетку 1942 году, там канцэнтрацыйнага лягеру яшчэ ня было.

У ходзе судовага разгляду абвінаваўчы бок выставіў сьведкаў, якія называлі пасуднага «Чорным камандзірам» ды прыпісвалі яму ўдзел у масавых забойствах і зьдзеку над зьняволенымі ў Калдычэве гэбрэямі. Падсудны давадзіў, што нічога падобнага ён не рабіў, ды што наагул яго зблытваюць з дваюрадным братам, Сьцяпанам Гутырчыкам, падобным на яго сваім выглядам, але старэйшым за яго. Той таксама служыў ахоўнікам у Калдычэве і загінуў пад канец вайны.

Гутырчыкаў адвакат сп. Джозэф Бэнэдыкт сказаў, што судзьдзя прыклаў да сьветчаньняў падсуднага «вельмі вузкую інтэрпрэтацыю закону» ды што справа пойдзе далей у апэляцыйны суд.

Пра пастанову суда падалі мясцовыя газэты. У гутарках з карэспандэнтамі суседзі сп-тва Гутырчыкаў выказалі зьдзіўленьне прысудам і далі добрыя характарыстыкі сям'і Сяргея Гутырчыка.

**Падпішэцеся на газэту «Беларус» для сваяка ці суродзіча на Беларусі, за што Вам будуць удзячныя і чытачы, і выдавецтва «Беларус».**

### ПАВАЖАНЫ СП. ЯНКА МІХАЛЮК!

*Надыйшоў урачысты час павіншаваць Вас зь 70-мі ўгодкамі Вашага нараджэньня. У гэты дзень мы з радасьцю адзначаем, што справа, якой Вы, як сябра і старшыня Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі, усяго сябе аддаеце, не прапала марна. Нягледзячы ні на якія перашкоды, нашая Радзіма становіцца незалежнай. У гэтым ёсьць і частка Вашае самаадданае працы.*

*Мы Вас віншуем і жадаем добрага здароўя і доўгіх гадоў на радасьць Вашым родным і на карысьць нашай Беларускай справы.*

**Галоўная Управа ЗБВБ**
**Кастрычнік 1992 г.**

*Ад Рэдакцыі:* Газэта «Беларус» цалкам далучаецца да выказанага Галоўнай Управай ЗБВБ віншаваньня сп. Янку Міхалюку і дадае свае найлепшыя пажаданьні яму, як выдатнаму нацыянальна-грамадзкаму дзеячу і шчыраму прыхільніку беларускага друкаванага слова. Дай Божа ўсяго найлепшага!

*Сябры рэдкалегіі й адміністрацыі «Беларуса» шчыра віншуюць*

***сп. БРАНІСЛАВА ДАНІЛОВІЧА***

*з 80-мі ўгодкамі жыцьця,*

*якія споўніліся 20 кастрычніка сёлета. Сп. Даніловіч — адзін з найбольш заслужаных працаўнікоў на беларускай выдавецкай ніве, шматгадовы й нястомны пашыральнік друкаванага слова.*

*Дай Божа юбіляру добрага здароўя. Многая лета!*



*Выстаўка ў Кірктане каля гор. Лёндану, правінцыя Атарыё, прысьвечаная насьледкам чарнобыльскае катастрофы. Арганізатар выстаўкі — праф. Фрэд Кокс (з барадой), кіраўнік Канадзкага Фонду Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі. Сядзіць за сталом сп. Мікола Шуст.*

*З жыцьця ў Саўт-Рывэры*

## 20-ГОДЗЬДЗЕ ЦАРКВЫ СЬВ. ЕЎФРАСІНЬНІ

Беларуская праваслаўная парафія ў Саўт-Рывэры ўрачыста адсьвяткавала Дзень Пакрова Прасьвятое Багародзіцы і 20-ыя ўгодкі ўваходу ў новазбудованую царкву імя сьв. Еўфрасіньні Полацкай.

У суботу 17 кастрычніка была адслужана вячэрня з удзелам гасьцей-сьвятароў: а. пратапр. Паўла Вялікага з Таронта, Канада, а. Ўсевалада Шэмяціла зь Нью-Ёрку і а. настаяцеля Мячыслава Брынкевіча.

У нядзелю ўрачыстую багаслужбу й малебен адслужылі: а. Павал Вялікі і а. Мячыслаў Брынкевіч. Айцец Мячыслаў сказаў пропаведзь на евангельскую тэму, а а. Павал на рэлігійную і на агульна-беларускую.

Прыгожа выглядаў хрэсны ход па зялёным травяным каўры, на фоне царквы і пажоўклай зелені лістоў на дрэвах, а мілагучны сьпеў хору пад кіраўніцтвам рэгента Адрэя Такаюка якбы ўзносіўся да прастолу Прасьвятое Багародзіцы з малітвай — просьбай дапамогі беларускаму народу на бацькаўшчыне пераджыць чарнобыльскае няшчасьце і нам дараваць гады шчасьлівага і спакойнага жыцьця.

Адразу пасьля багаслужбаў, з прычыны халаднаватага надвор'я, парафіяльны пікнік пачаўся ў залі. Падчас пікніку адбылася і мастацкая частка, якую запачаткаваў сп. Пятро Нядзьвецкі, прапяяўшы некалькі народных і напісаных на свае і беларускіх паэтаў словы песьняў. Ягоны пачын падхапілі артысты зь Беларусі: сьпевакі Іна Афанасьева і Мікалай Скорыкаў, кампазытар Зьмітрок Яўтуховіч, паэт Леанід Пранчак і зладзілі сапраўдны канцэрт, за які былі ўзнагароджаны бурнымі воплескамі.

Царкоўнае сястрыцтва даволі напрацавалася, каб прыгатовіць смачную ежу, за што яму належыцца шчырая падзяка.

**М.С-ка**

### ПРА БЕЛАРУСКУЮ ЛІТАРАТУРУ Ў НЯМЕЧЧЫНЕ

Шырокаведамы (заснаваны ў 1890 г.) нямецкі часапіс Neue Rundschau (Frankfurt/Main, t. 103, No. 4, 1992), зьмясьціў літаратурны партрэт беларускага пісьменьніка Вячаслава Адамчыка ды ягонае апавяданьне «Салодкія яблыкі». Аўтар партрэту — ведамы нямецкі літаратар і перакладчык Норбэрт Рандаў.

У іншым нямецкім часапісе Litfass (Berlin, No. 55, 1992) у перакладах Норбэрта Рандава, Элькі Эрб і Гартмута Гэрбота выдрукаваная падборка твораў беларускіх пісьменьнікаў Алеся Разанава, Уладзімера Арлова й Ніны Мацяш.

## ВІНШУЕМ ПЯТРА НЕГОДУ



*з угодкамі народжаньня, якія споўніліся 17-га верасьня, і жадаем яму ў сувязі зь ягоным 70-годзьдзем добрага здароўя і добрага настрою на доўгія гады жыцьця.*

**Жонка Людміла і сын Барыс**

***Ад Рэдакцыі:*** *Выказваючы свае найлепшыя нажаданьні сп. Пятру Негоду з нагоды ягоных угодкаў нараджэньня, выбачаемся за спозьненае зьмяшчэньне віншаваньня, якое прыйшло на час, але зьмяшчаецца толькі цяпер дзеля недагляду ў рэдакцыі.*

## НА МІЖНАРОДНАЙ КАНФЭРЭНЦЫІ МУЗЫКАЛЁГАЎ

24-25-га кастрычніка гор. Сіатл у штаце Вашынгтон гасьціў у сябе 37-ю канфэрэнцыю Міжнароднага Таварыства Этнамузыкалёгаў. Даклады ахоплівалі шырокі тэматычны спэктар: музычнае выяўленьне і нацыянальнае самасьцьверджаньне, рытуал, гісторыя, спавядальныя традыцыі, аналіз папулярнай музыкі і г.д.

З дакладам на канфэрэнцыі ў сэкцыі, прысьвечанай транскультурным пэрспэктывам і аналізу папулярнай музыкі, выступіла 25-га кастрычніка Марыя Паўля Сурвіла, дактарантка Мішыганскага Ўнівэрсытэту. Тэма ейнага дакладу была своеасаблівая: «Цытаты для кенгуру: шматтэкставасьць і стыль у беларускім року». Дакладчыца дасьледзе розныя падыходы да музычнага стылю ў музыцы беларускіх гуртоў з асаблівым акцэнтам на гурт «Мроя». Даклад быў добра ўспрыняты і выклікаў ажыўленую дыскусію сярод навукоўцаў, што займаюцца дасьледваньнямі музычнай культуры Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы.

**Я.В.**

***Просьба да чытачоў і ахвярадаўцаў***

### У СПРАВЕ РАЗЬЛІКУ ЗА ГАЗЭТУ

Асобы, што дастаюць газэту ад нашага прадстаўніка сп. Браніслава Даніловіча, павінны зь ім і разьлічвацца, выпісваючы чэк на ягонае імя і перасылаючы на ягоны адрас:

B. Danilovich
303 Howard St.
New Brunswick, N.J. 08901

### КАЛЯДНА-НАВАГОДНІЯ ВІНШАВАНЬНІ!!!

Павіншуйце сваякоў, сяброў і знаёмых тут і на Бацькаўшчыне праз газэту «Беларус» і падтрымайце гэтым беларускае друкаванае слова, складаючы ахвяраваньне на выдавецкі фонд «Беларуса» ў суме **20 дал. за асабістае віншаваньне і 50 дал. за арганізацыйнае.**

Няхай Ваша імя або назоў Вашай арганізацыі, прыходу, установы будзе ў ганаровым сьпісе тых, хто дацэньвае й падтрымлівае вольны беларускі друк. **Газэта «Беларус» патрабуе Вашай фінансавай дапамогі.** Тэрмін уключэньня Вашага прозьвішча або Вашай арганізацыі ў гэткі сьпіс — 5 сьнежня.

## *BELARUSIAN REVIEW ДАПАМАГАЕ БЕЛАРУСІ ВЫХОДЗІЦЬ У СЬВЕТ*

Два апошнія выпускі квартальніка "Belarusian Review" зьмяшчаюць у сабе на сарака старонках убарыстага друку зь ілюстрацыямі вельмі багаты інфармацыйны й аналітычны матар'ял.

У веснавым нумары заслугоўваюць на ўвагу грунтоўныя артыкулы Арта Турэвіча і Джоў Прайса, у якіх даецца агляд эканомікі Беларусі.

У нумары зьмешчаныя таксама выказваньні новага міністра абароны Рэспублікі Беларусь ген. Паўла Казлоўскага, інфармацыя пра летнюю міжнародную школу беларусістыкі ў Менску, новыя дадзеныя пра чарнобыльскую бяду на Беларусі, дакумэнтацыя сёлетняга адзначэньня ў Амэрыцы 74-х угодках незалежнасьці Беларусі (БНР); багаты разьдзел хронікі беларускага жыцьця як у Амэрыцы, гэтак і на Беларусі.

Квартальнік карыстаецца заслужанай папулярнасьцяй у Беларусі, дзе ён выкарыстоўваецца ня толькі як крыніца інфармацыі, але й для вывучэньня ангельскае мовы. Часапіс размнажаецца ў Менску факсымільным спосабам. Займаецца распаўсюджваньнем яго сп. Вацлаў Багдановіч (тэл.: /0172/ 27-18-54)

Летні нумар «Беларускага Агляду» (vol. 4, № 2) разглядае вельмі важнае пытаньне дыпляматычных сувязяў паміж Беларусяй і Ватыканам; інфармуе пра сустрэчу міністра замежных справаў РБ П. Краўчанкі з амэрыканскім сэнатарам Лары Прэсьлерам; падае выказваньні замежнага друку пра беларускіх алімпійцаў у Барсэлёне. У часапісе зьмешчаныя два цікавыя інтэрв'ю: газэты «Зьвязда» з амэрыканскім пасьлом у Менску Дэвідам Сўорцам і лімаўскага карэспандэнта Юрася Залоскі зь пісьменьнікам Васілём Быкавам. Пра іншыя матар'ялы гавораць загалоўкі: «Другія ўгодкі абвешчаньня сувэрэнітэту Беларусі», «Шушкевіч як палітык», «Статут Вялікага Княства Літоўскага», «20-я Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі»; «Крыніцы антысэмітызму на Беларусі». Багаты аддзел хронікі; лісты ў рэдакцыю.

Пытаньню нацыянальнага адраджэньня на Беларусі прысьвечаны артыкул Я. Крэўскага. Пра дапамогу беларускім чарнобыльцам піша амэрыканскі пастар Майкэл Крыстэнсан у артыкуле пад заг. «Апэрацыя 'Надзея-экспрэс'».

Квартальнік "Belarusian Review" выконвае выключна важную ролю цяперашнім часам, калі міжнароднае зацікаўленне Беларусяй расьце з кожным днём і калі ад паінфармаванасьці заходняга сьвету будзе залежаць шырыня заходне-беларускіх кантактаў і ступень дапамогі з Захаду маладой беларускай рэспубліцы.

На "Belarusian Review" можна падпісацца, пасылаючы 20 дал. гадавой падпіскі на адрас: P.O. Box 10353, Torrance, CA 90505. Fax No. (310) 373-0793.

**Я. З.**

### БІЗНЭСАЎСКІ СЛОЎНІК-ДАВЕДНІК

**Внешне-экономическая деятельность. Словарь-справочник.** Менск, выд. «Вышэйшая школа», 1992. 208 стар.

Гэты вельмі патрэбны даведнік прыдасца перш-наперш тым, хто займаецца або цікавіцца амэрыканска-беларускім гандлем. Калі хочаце даведацца, як гучыць па-беларуску, па-ангельску ці па-расейску той ці іншы бізнэсаўскі тэрмін і што ён значыць, гэты слоўнік Вам дапаможа. Гэта першае такога роду выданьне.

У слоўніку дадзеныя тлумачэньні (разам зь перакладам іх у беларускую й ангельскую мовы) тэрмінаў вонкаваэканамічнай дзейнасьці а таксама ўзоры дзелавой карэспандэнцыі і фразэалёгіі ў трох мовах. Альфабэтныя паказьнікі ў трох мовах робяць даведнік вельмі зручным.

Уклаў яго калектыў аўтараў на чале з канд. экан. навук, дацэнтам Сяргеем Крычэўскім.

Сп. Крычэўскі знаходзіцца цяпер у ЗША, дзе ён знаёміцца з амэрыканскай эканомікай і эканамічнай навукай.

## МАСТАЦКАЯ ВЫСТАЎКА ЗЬ МЕНСКУ Ў ПЭНСЫЛЬВАНІІ

У мастацкай галерэі Віляноваўскага Ўнівэрсытэту ў гор. Вілянова, штат Пэнсыльванія (на 30-й дарозе міляў 10-15 на захад ад Філядэльфіі) адчынілася 9-га лістапада мастацкая выстаўка зь Менску (малюнкі, кераміка, скурaныя вырабы). Прыбытак з продажу экспанатаў гэтай выстаўкі пойдзе на дапамогу ахвярам чарнобыльскай радыяцыі на Беларусі. Выстаўка будзе адчыненая да канца сьнежня сёлета.

У прадмове да каляровага альбому выстаўкі пасол ЗША ў Менску Дэйвід Сўорц кажа пра гэтую падзею як «яшчэ адзін важны крок у збліжэньні нашых дзьвюх дзяржаваў і народаў».

Куратар выстаўкі сп. Уладзімір Адашкевіч сардэчна запрашае чытачоў «Беларуса» і ўсё беларуска-амэрыканскае грамадзтва наведаць галерэю Віляноваўскага Ў-ту і пераканацца, якімі самабытнымі талентамі багатая беларуская зямля.

Выстаўка адчыненая будзённымі днямі ад 9-й ураньні да 9-й увечары.

Інфармацыю можна дастаць па тэлефоне: (215) 645-4612.

## НЯМЕЦКА-БЕЛАРУСКАЕ СУПРАЦОЎНіЦТВА

Паводля маскоўскага прэсавага агенцтва «Інтэрфакс», Старшыня ВС Беларусі Ст. Сушкевіч трымае цесныя сувязі зь лідэрамі нямецкага бізнэсу, як пра гэта сьветчыць Шушкевічаў нядаўны шасьцідзённы візыт у Нямеччыну, куды ён лётаў на самалёце прыватнае нямецкае фірмы. Нямецкія капіталаўклады ў беларускую эканоміку складаюць цяпер адну траціну ўсіх замежных капіталаў. Па колькасьці супольных прадпрыемстваў у Беларусі — 64 — Нямеччына стаіць на другім месцы пасьля Польшчы. (FBIS, 9/30)

## *КНІГІ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ» НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ*

Як падалі «Звязда» (11.IX) і «Народная газета» (22.IX), кнігі беларускага выдавецтва «Бацькаўшчына», якое дзейла ў 1950-х гадох у Мюнхэне і дзе засталіся ляжаць тысячы экзэмпляраў нераспаўсюджаных ягоных выданьняў, трапілі нарэшце на Беларусь. Аб гэтым парупіліся спсп. Юры Сяньkоўскі і Павал Урбан, былыя супрацоўнікі радыё «Свабода», якія жывуць у Мюнхэне. Каля трох тысячаў кніг — творы Купалы, Коласа, Багдановіча, Ластоўскага, Гаруна, Калюгі, Мрыя, Крушыны, Віцьбіча — былі перасланыя на Беларусь інфармацыйнаму агенцтву БелаПАН. Кошт перавозу кніжак узяло на сябе гэтае агенцтва супольна з прадапрыемствам «Зубр» (дырэктар Сяргей Кліорын).

Генэральны дырэктар БелаПАНу Алесь Ліпай, выказваючы ў «Народнай газеце» падзяку спсп. Сянькоўскаму і Урбану за падараваныя кнігі, адзначыў, што атраманыя кнігі «каштоўныя ня толькі самі па сабе, але і сакавітай, сапраўднай беларускай мовай, а таксама і тым, што «ўсе выданьні суправаджаюцца багатым крытычным матэрыялам, у якім творы мастацтва разглядаюцца не зь інтэрнацыяналісцка-бальшавіцкіх пазыцый, а з пазыцый беларускага нацыянальнага адраджэньня».

Аўтарамі крытычных матарыялаў у выданьнях «Бацькаўшчыны» былі Антон Адамовіч (псэўданім Р. Склют) і Станіслаў Станкевіч.

## СТ. ШУШКЕВІЧ ЗА «РУБЛЁВУЮ ЗОНУ»

Старшыня ВС Беларусі Станіслаў Шушкевіч сказаў у інтэрв'ю маскоўскай радыёпраграме «Новости» 26.X.92:

Адно з найважнейшых пытаньняў цяпер — гэта пытаньне аб рублёвай зоне. Рублёвай зоны няма. Павінна быць пэрспэктыва, павінны быць этапы. Мы гатовы над гэтым працаваць. Мы хочам, каб расійскі рубель быў плацежным адзіным сродкам. Нам выгадней будзе, і Расеі выгадней, і Казахстану выгадней. Але для гэтага ня трэба ствараць нейкія там вялікія рады. Для гэтага павінна быць зусім мэтанакіраваная дзейнасьць, павінна быць жорсткая праграма банкаўскай дзейнасьці, міжбанкаўскі саюз. Гэта самае важнае пытаньне. Я думаю, што існуе выразна заганная структура, якая запальвае гэты разьлік, маючы пры гэтым пэўны навар.

## У НЯМЕЧЧЫНЕ ДРУКУЮЦЦА БЕЛАРУСКІЯ ГРОШЫ

Маскоўскае прэсавае агенцтва Інтэрфакс падало 13 кастрычніка сёлета, што паводля ўрадавых крыніцаў «беларуская нацыянальная валюта ўжо друкуецца ў Нямеччыне. Першая порцыя грошай нядаўна была дастаўленая ў Менск».

Паводля таго-ж Інтэрфакса, прэм'ер Беларусі В. Кебіч і Старшыня ВС Беларусі Ст. Шушкевіч заявілі ў Бішкеку пасьля нарады там лідэраў СНД, што Беларусь магла-б увесьці ўласную валюту, калі-б здолела стабілізаваць сваю вытворчасьць. Стабілізацыя такая тымчасам далёка наперадзе для рэспублікі, якая мусіць імпартаваць бальшыню сыравіны для свае прамысловасьці. Тым ня менш, Кебіч і Шушкевіч сказалі, што ў прынцыпе праблема нацыянальнае валюты для Беларусі вырашана ўжо. Яны адмовіліся аднак назваць тэрмін уводу валюты. «Гэта дзяржаўны сакрэт», сказаў Ст. Шушкевіч.

Як падала газэта «Нью-Ёрк Таймс» (9.XI), новы прэм'ер Украіны Леанід Кучма выказаўся «катэгарычна супраць» уводу грыўні, украінскае нацыянальнае валюты. На думку Кучмы, пакуль ня будзе спыненая інфляцыя, уласную валюту ўводзіць нельга, бо гэта прывядзе да раптоўнага залому фінансавай сыстэмы.

Лідэр БНФ Зянон Пазьняк, гаворачы ў інтэрв'ю з Галінай Айзэнштат («Звязда», 17.X.92) пра «сьмяротэльныя бар'еры, якія Беларусі прыйдзецца пераадолець» на шляху да лепшай будучыні, назваў і гэткі «бар'ер»: «зразумець неабходнасьць, абавязковасьць нацыянальнай валюты».

### «ЛЕКСІЧНЫ АТЛАС БЕЛАРУСКІХ НАРОДНЫХ ГАВОРАК» (5 ТАМОЎ)

У таласе, над якім супрацоўнікі АН Беларусі працавалі 20 гадоў, будзе каля 2000 лінгвістычных картаў, 200.000 слоўнікавых адзінак. Т. 1: «Жывёльны і расьлінны сьвет». Т. 2.: «Сельскагаспадарчая лексіка». Т.3: «Чалавек». Т.4: «Бытавая лексіка». Т.5: «Сэмантыка, словаўтварэньне і націск».

Першы том будзе выдрукаваны ў канцы 1992 году. Цана кнігі: 50 дал. для асобаў, 100 дал. для інстытуцыяў. Заказы пасылаць на адрас: 220072 Minsk, F. Skaryna Ave., 66, Room 424. Fundamental Investigation Fund of the Belarusan Republic for the Account No. 268070645/001/ (Lexical Atlas) in Bel-VneshEconomBank, Minsk.

## ДАЖЫНКІ

У нядзелю 25 кастрычніка парафія Божай Маці Жыровіцкай у Гайленд Парку, ладзіла «Дажынкі». Усе мясцовыя ды шмат далейшых суродзічаў з Нью-Ёрку ды ваколіц прыехалі на гэтую ўрачыстасьць. Былі й госьці здалёк: сп. Валянцін Стэх зь Вільні, сп-ня Вольга Сінякевіч і сп. Алесь Крыштаповіч зь Менску.

Урачыстасьць пачаў настаяцель парафіі а. прат. Васіль Андрэюк малітваю. Сп. В. Русак прадставіў гасьцей. Сп. Стэх прывітаў прысутных ад суродзічаў зь Вільні й Летувы ды паінфармаваў, што ў сёлетніх выбарах у Летувіскі Парлямэнт, якія якраз адбываліся, балатавалася актыўная беларуска сп-ня Ангеліна Русак. Ейную кандыдатуру падтрымлівалі таксама іншыя меншасьці.

Асабліва багатая лятарэя прынесла шмат каму добрыя выйгрышы ды ўзбагаціла парафіяльную касу.

Сп. Русак у сваім слове пра дажынкі зазначыў алегарычна, што сёлетні год быў ураджайным на падзеі ў жыцьці беларускага грамадзтва й нашай царквы. Ураджайнай была 20-я Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, што адбылася тут на пачатку верасьня. Сярод гасьцей яе былі Міністар замежных справаў Беларусі сп. Пётр Краўчанка, Пасол РБ пры ААН сп. Генадзь Бураўкін ды шмат гасьцей зь Беларусі і зь Беласточчыны. Быў удала праведзены сымпозіюм на тэмы, што глыбока закранаЛі жыцьцё Беларусі. Мастацкая частка ў выкананьні прафэсійных артыстаў зь Менску ды нашага хору з Клїўленду дадала шмат да посьпеху Сустрэчы Сп. Русак адзначыў асаблівыя заслугі сп. Антона Шукелайця, старшыні галоўнай управы БАЗА; сп. Міколы Ганька, старшыні Згуртаваньня Беларусаў Канады; сп. Янкі Азаркі, старшыні ньюджэрдзійскага аддзелу БАЗА і сп. Юркі Азаркі, старшыні Сустрэчы.

Сп. Русак паінфармаваў, што захады Фонду Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў напрамку дапамогі пацярпелым ад радыяцыі прывялі да канкрэтных вынікаў. На Беларусь адпраўленыя чатыры кантэйнэры, кожны даўжынёю 40 футаў, з мэдыкамэнтамі ды іншымі неабходнымі рэчамі для шпіталёў і пацыентаў. Вартасьць пасланых матар'ялаў ацэньваецца на больш як два мільёны даляраў. Дапамога была сабраная дзякуючы падтрымцы беларускага грамадзтва ды ў цесным супрацоўніцтве з пастарам Полам Морам зь Сіты Гоўп Інтэрнашэнал. На сьвяткаваньні былі прысутныя сп. Аляксандар Сільвановіч, скарбнік Фонду Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі, і сп-ня Ніна Сільвановіч. Таго-ж дня яны паляцелі самалётам у Менск, каб памагчы там у распадзеле й дастаўцы лекаў ды іншых матар'ялаў патрабуючым у Беларусі. Усе пажадалі сп-тву Сільвановічам шчасьлівага й плённага падарожжа.

**В. Р.**

## СЬВ. † ПАМ. МІКОЛА КУМЭЙША



15 кастрычніка 1992 г. адыйшоў на вечны супачынак Мікола Кумэйша, пакінуўшы ў вялікім смутку жонку Кляру і двух сыноў, Міраслава і Яўгеня, а на Бацькаўшчыне — брата і сястру.

Сьп. пам. Мікола Кумэйша нарадзіўся 15 лістапада 1920 г. ў вёсцы Вялікае Падлесьсе каля Ляхавічаў, недалёка ад Баранавічаў, у сям'і працавітага й нацыянальна сьведамага селяніна.

Па сканчэньні сямігодкі ў Ляхавічах вучыўся ў ніжэйшай аграрнай школе ў Дубоі каля Пінска, а пасьля — у лясной школе ў Жыровічах, атрымаўшы там дыплём агранома. Працаваў па прафэсіі каля Жыровічаў. Калі прыйшлі Саветы, вярнуўся дадому з думкай працягваць асьвету. Паехаў у Беласток вучыцца ў настаўніцкім інстытуце, па заканчэньні якога вярнуўся ў Ляхавічы. Там працаваў настаўнікам фізыкі й матэматыкі ў няпоўнай сярэдняй школе.

7 лістапада 1942 г. Мікола ажаніўся з Кляраю Таранда. Не дачакаліся яны, на жаль, вялікага моманту ў сваім жыцьці — залатога юбілею шлюбу.

Умовы настаўніцкай працы ў часе нямецкай акупацыі былі цяжкія. За частую крытыку «вышэйшай расы» настаўнік Мікола Кумэйша быў арыштаваны і разам з жонкай вывезены на прымусовую працу ў Нямеччыну. Працаваў там Мікола перад канцом вайны на самалётнай фабрыцы «Мэсэршміт».

Па вайне паехаў працаваць у вугальныя шахты ў Бэльгію, дзе трымаў сувязь зь беларускімі студэнтамі ў Лювэне. Прабыўшы ў Бэльгіі чатыры з палавінаю гады, выехаў зь ся'ёй у Канаду, а адтуль у 1956 годзе — у Злучаныя Штаты, у горад Дэтройт. Спонсарам ягонага пераезду ў Амэрыку быў ведамы беларускі дзеяч у ЗША сп. Мікола Прускі.

У Дэтройце Мікола Кумэйша адразу-ж уступіў у вельмі дзейны тады аддзел БАЗА ды актыўна заняўся грамадзкай працай. Пасьля некалькіх гадоў стаўся старшынём аддзелу БАЗА. Шмат стараньняў прыклаў, каб зарганізаваць у Дэтройце парафію БАПЦ. Мроі ягоныя і многіх ягоных сяброў збыліся ў 1971 годзе, калі быў куплены будынак царквы ў Іст-Дэтройце. Тут Мікола эрэгічна ўзяўся за рамонт і ўпрыгожаньне царквы, аддаючы на гэта шмат часу, хоць быў моцна заняты сваёй прафэсійнай кантрактарскай работай. Ягонымі стараньнямі, пры дапамозе сп. Андрэя Стрэчаня з кліўлендзкай прафіі Жыровіцкай Божай Маці, быў пастаўлены прыгожы іканастас. Сам Мікола з жонкай сьпявалі ўвесь час у вельмі мілагучным царкоўным хоры. Мікола быў амаль «жалезным» царкоўным старастам істдэтройцкай царквы Сьвятога Духа.

Паніхіду па нябожчыку адслужыў сьвятар Амэрыканскай Праваслаўнай Царквы прат. Андрэй Варановіч з парафіі Сьвятой Тройцы ў Дэтройце пры ўдзеле многіх сяброў памёрлага і ягонай сям'і.

Паховіны адбыліся 19 кастрычніка. З царквы Сьв. Тройцы цела было перавезена на могільнік Ўайт Чапэл у гор. Трой. На хаўтурным абедзе ў Украінскім Культурным Цэнтры ў гор. Ўорэне было шмат беларускіх і амэрыканскіх прыяцеляў сям'і нябожчыка. Разьвітальнае слова сказаў па-ангельску й па-беларуску мгр. Васіль Плескач. Прамаўляў таксама былы старшыня парафіі Сьв. Духа БАПЦ др. Язэп Сажыч, выказаўшы спачуваньне ад імя ўсіх сяброў, якім давялося працаваць зь нябожчыкам для дабра беларускай справы й нацыянальна-рэлігійнага адраджэньня нашай Бацькаўшчыны.

**В.П.**

## СЬВ. ПАМ. МІХАСЬ ТКАЧОЎ

31 кастрычніка 1992 г. памёр у Менску пасьля доўгай хваробы выдатны вучоны й дзеяч беларускага нацыянальнага адраджэньня, археоляг, гісторык і палітычны лідэр, адзін з заснавальнікаў Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Партыі др. Міхась Ткачоў. Нябожчык нарадзіўся 10 сакавіка 1942 г. ў г. Мсьціславе. Скончыў БДУ, працаваў у Інстытуце гісторыі АН БССР, у Гродзенскім унівэрсытэце. Вывучаў ваенна-абароннае дойлідзтва, матар'яльную культуру Беларусі. Аўтар шматлікіх навуковых працаў. У 1991 годзе выйшла ягоная грунтоўная манаграфія «Замкі і людзі».

Міхась Ткачоў быў ня толькі выдатным працавітым вучоным і шчырым патрыётам свае Бацькаўшчыны, але чалавекам шчодрае душы, лагоднага характару, чульлівага стаўленьня да людзей. Ягоная прадчасная сьмерць — непапраўная страта для Беларусі.

Вестку пра сьмерць сьв. пам. М. Ткачова з болем успрынялі ўсе, хто яго ведаў. Рэдакцыя «Беларуса» выказвае сардэчныя спачуваньні сваяком і блізкім набожчыка. Вечная памяць.

## СЬВ. † ПАМ. МІКОЛА МІЦКЕВІЧ



17 верасьня сёлета трагічна загінуў у аўтамабільнай катастрофе на 51-м годзе жыцьця сьв. пам. Мікола Міцкевіч, пакінуўшы ў горы сваю маці Жэню, сястру Галіну, жонку Ольгу й дачку Лену.

Нябожчык выдатна закончыў ў 1968 г. менскі Палітэхнічны Інстытут. Апошнія 20 гадоў працаваў галоўным інжынерам у Слуцкім сельска-будаўнічым камбінаце. Амаль кожную суботу й нядзелю ён праводзіў у Мікалаеўшчыне ў бацькоў, каб памагчы ў чым-небудзь ім або аднавяскоўцам. Любіў сваю бацькаўшчыну і ўсю Беларусь. Цешыўся зь перамен, якія адбываліся. Для сям'і, сваякоў і знаёмых у Беларусі, Нямеччыне й Амэрыцы сьмерць сьв. пам. Міколы Міцкевіча была нечаканым ударам.

Дарагі Коля, мы будзем вечна Цябе памятаць. **Сястра Галіна**

## СЬВ. † ПАМ. АНАТОЛЬ НОВІК



Адыйшоў у вечнасьць пасьля доўгай і цяжкай хваробы на рака 3-га кастрычніка 1992 г. Адчуваючы блізкі канец, 30-га верасьня пры поўнай памяці прыняў ад. а. Міраслава сьвятое прычасьце, а 5-га кастрычніка цела пакойніка было перавезена ў Беларускую праваслаўную царкву Сьв. Юрыя для адпяваньня. У апошнюю дарогу цела пакойніка суправаджала калёна родзічаў і прыяцеляў на Элмвудзкі магільнік у Рывэр-Груве, дзе й было пахавана.

Сьв. пам. А. Новік нарадзіўся 18 красавіка 1924 г. у вёсцы Даманкавічы блізка Баранавічаў. У часе вайны трапіў у Нямеччыну, а ў 1954 г. — у ЗША. Быў надзіва добрага і ўжыўчывага характару, любіў свой народ і царкву, у якой праслужыў скарбнікам прыходу ад 1967 г. да 26 мая 1992 г.

У вялікім смутку пакінуў жонку Элеанору, чатыры дачкі зь сем'ямі: Галіну, Ірэну, Аляксандру, Глорыю і сына Тоні, пятнацаць унукаў і трое праўнукаў.

Сьпі спакойна, наш дарагі супрацоўнік, муж і бацька, Твой многалікі род па волі Божай шчодра ўнасьледаваў удзячную зямлю Амэрыкі і з пашанай заўсёды будзе памятаць зямлю сваіх продкаў — Табе дарагую Беларусь.

**Прыяцелі**

## ШУКАЮ СЬЛЯДОЎ БАЦЬКІ, КОРАНЯ АНТОНА ФЁДАРАВІЧА

Родам зь вёскі Хідра (цяпер Пухавіцкі раён Менскай вобл.), ён выехаў у Амэрыку недзе ў 1912 годзе разам з пляменьнікам Красінскім. Пісаў да мае мамы лісты, каб яна таксама прыехала ў Амэрыку, але Першая сусьветная вайна перашкодзіла гэтаму. Лісты ад бацькі згарэлі разам з нашай хатай. Казалі, што бацька працаваў на табачнай фабрыцы.

Недзе ў 1950 годзе бацька прыслаў у вёску ліст, пытаўся пра мяне. Я жыла тады ў Менску і пра ліст даведалася пазьней. Пісаць баялася, бо гэта быў цяжкі час у нашай гісторыі. На пачатку 1950-х гадоў пляменьнік напісаў, што бацька памёр. Адрасу ягонага я ня маю.

Нядаўна я даведалася, што беларуская арганізацыя ў Амэрыцы памагае знаходзіць сваякоў. Я ніколі бацькі ня бачыла. Ня ведаю, колькі яшчэ давядзецца пажыць на гэтым сьвеце, але хацелася-б перад сьмерцяй пачуць пра яго і ягонае жыцьцё. Буду вельмі ўдзячная за якую-небудь вестку пра яго і за ягоную фатаграфію. Са шчырай удзячнасьцю за дапамогу — **Юшко Аляксандра Антонаўна, 220035 Менск, вул. Гастэлы, 6-18, Беларусь.**

## ЧАРНОБЫЛЬСКІ ФОНД АЎСТРАЛІІ

**Працяг сьпісу ахвярадаўцаў (пачатак гл. у «Беларусе» нр. 387)**

**(Цэнты ў справаздачы апушчаныя — рэд. «Б-са»)**

**1. Паўдзённая Аўстралія (Адэляйда)**

| | |
|---|---|
| Парафія БАПЦ сьв. Пятра й Паўла | аўстр. дал. 1000 |
| Беларускае Аб'еднаньне ў Паўдз. Аўстраліі | 410 |
| Банкавыя працэнты (мінус аплаты і кошт чэку) | 266 |
| З продажу сьцяжкоў на 9-й Сустрэчы (сп. Я. Ролсан) | 228 |
| Даход за сьцяжкі, выручаны сп. К. Колесам | 29 |
| Сп. І. Грыцэвіч | 100 |
| Сп-ня А. Пухар | 60 |
| Па 50 дал.: спсп. П. Міхальскі, Т. Камінскі | 150 |
| Сп-тва Рэйгардт | 30 |
| Сп. М. Кавалеўскі | 20 |
| Б. А. ў П. Аўстраліі на фонд даставы мэдыкамэнтаў у Беларусь | 200 |
| Усяго сабрана ў Аўстраліі ад 1.5.1990 да 1.8.1992 | 2493 |
| Сабрана папярэдне (да 1.5.1990, гл. «Б-с» нр. 387) | 2640 |
| Усяго разам сабрана да 1.8.92 у П. Аўстраліі (Адэляйда) | 5133 |

**2. Новая Паўдзённая Валія (Сыднэй)**

| | |
|---|---|
| Сп. Ч. Захарэвіч | 500 |
| Сп. Ю. Мілевіч | 300 |
| Па 200 дал.: сп-ня А. Малецкая, сп. В. Кобрын, Беларускі Клюб у Фаерфільдзе, (Сыднэй) | 600 |
| Сп. А. Разумейчык | 150 |
| Па 100 дал.: спсп. Н. Федаровіч, В. Янчук, «Гетэвай Травэль Пту/ЛТД» | 300 |
| Па 50 дал. сп-ня Л. Зуй, сп. Ё. Шлёх | 100 |
| Сп-ня Ч. Захарэвіч | 60 |
| Сп. Е. Акоўскі | 25 |
| Па. 20 дал. спсп. Я. Макарэвіч, В. Генаеў, О. Ткач, Т. Грын, В. Пэрз | |
| А. Ляпыр | 120 |
| Сп. Н.Н. | 92 |
| Банкавыя працэнты | 248 |
| На фонд даставы мэдыкамэнтаў на Беларусь: | |
| Сп. М. Зуй | 50 |
| Сп. В. Плахоцкі | 30 |
| Сп. М. Ціхан | 25 |
| Усяго разам у Н.П. Валіі сабрана ад 1.6.1990 да 1.8.1992 | 2600 |
| Сабрана папярэдне да 1.5.1990 (гл. «Беларус» нр. 387) | 11859 |
| Сабрана за ўвесь час да 1.8.1992 у Новай П. Валіі (Сыднэй) | 14459 |

**3. Вікторыя (Мэльбурн)**

| | |
|---|---|
| Працэнты з банкавага ўкладу | 2699 |
| Выручаны даход з продажу шакаладу | 2511 |
| Мастацкі гурток «Каліна», Мэльбурн | 450 |
| Др. Н. Яўневіч | 200 |
| Сп. Е. Груша | 100 |
| Па 50 дал. спсп. М. Сасноўскі, Л. Сьвяты, Пакіко | 150 |
| Спсп. П. Гуз і Е. Груша (з продажу сьцяжкоў) | 60 |
| Па 20 дал. сп-ні А. Петрэнко, І. Говар, Л. Шнэк, А. Палікарпоўская, сп-тва Ладуцька | 100 |
| Па 10 дал. спсп. Сатэнко, Прокопійскі | 20 |
| На фонд пакрыцьця коштаў даставы мэдыкамэнтаў у Беларусь: | |
| Каапэратыў Беларускага дому ў Мэльбурне | 200 |
| Па 100 дал.: Выканаўчы Камітэт Фэд. Рады, Бел. Нац. Фонду у Вікторыі, Бел. Жаночы Камітэт у Вікт., Бел. Цэнтр. Камітэт у Вікт. | 400 |
| Па 40 дал.: спсп. Т. Я. Алёхін, У. Сідлярэвіч, У. Шнэк | 120 |
| Сп. В. Русак | 30 |
| Па 50 дал.: сп. Е. Груша і сп-ня І. Говар | 50 |
| Па 20 дал.: а. А. Грыцук спсп. П. Гуз і Я. Валенцёнак | 60 |
| Па 10 дал.: спсп. М. Скабей, М. Нікан, Я. Стасевіч, Г. Шайпак | 40 |
| Усяго сабрана ад 1.8.1990 да 1.8.1992 | 7240 |
| Сабрана раней (гл. «Беларус» нр. 387) | 7674 |
| Усяго разам сабрана ў Вікторыі (да 1.8.1992) | 14914 |

**4. Заходняя Аўстралія (Пэрт)**

| | |
|---|---|
| Усяго сабрана (гл. прозьвішчы ахвярадаўцаў у «Беларусе» нр. 387) | 1645 |

Заўвага: У нр. 387 «Беларуса» памылкова надрукавана «Па 20 дал.: а. М. Бурнос і сп-тва Ферэнчук». Павінна быць: па 200 дал.

**5. Усяго разам сабрана на Беларускі Чарнобыльскі Фонд у Аўстраліі** ў чатырох штатах (Вікторыя, Новая Паўдзённая Валія, Паўдзённая Аўстралія і Заходняя Аўстралія) да 1.8.1992 г. 36.152 даляры.

**Управа Беларускага Чарнобыльскага Фонду ў Аўстраліі**